# За сьвіную скуру змагацца так, як змагаемся за лён і хлеб

У 4-м заключным годзе пяцігодкі народна-гаспадарчы плян намячае выпуск 91,5 міл. пар абутку. Калі параўнаць гэтую лічбу з колькасьцю выпускаўшагася абутку ў даваеныя часы, дык мы маем пазялічэньне амаль у тры разы.

50 проц. усёй скурсыравіны, якая ідзе на патрэбы абуткова-скураной прамысловасьці, **зараз складаюць сьвіныя скуры.** Такім чынам ад пасьпяховага выкананьня плянаў загатовак сьвіных скур залежыць поўнае выкананьне пляну выпуску абутку, збруі, залежыць бесьперабойная работа фабрык і заводаў, якія апрацоўваюць скурсыравіну, залежыць забесьпячэньне рабочых і працоўных мас абуткам. Сьвіная скура мае вялікае значэньне для сацыялістычнага будаўніцтва. 2 мільёны сьвіных скур штогодна гінула, калі сьвіныя тушы асмальваліся і апарваліся.

Мы ні ў якім разе не можам дапусьціць таго, каб гінула сьвіная скура, у якой мае вялікую патрэбу абуткова-скураная прамысловасьць.

Наяўнасьць магчымасьці загатовак сьвіных скур у нас вялікая. Яна забясьпечвае ня толькі выкананьне, але і перавыкананьне ў некалькі разоў намечаных плянаў, калі толькі як сьлед разгарнуць работу. Так, у студзені месяцы бягучага году па раёнам **пляны загатовак сьвіных скур былі выкананы на 172,9 проц.** Пры гэтым **ПОЛАЦКАЯ** сетка выканала плян загатовак сьвіных скур на 541,3 проц. Гэтыя лічбы пакрэсьліваюць усю жыцьцёвасьць прапановы газэты **„Калгасьнік Беларусі“**, якая падтрымана і „Савецкай Беларусьсю“, аб сустрэчным пляне — **загатовіць у 4-м заключным годзе пяцігодкі па раённай зборцы не 350, а 700 тысяч сьвіных скур.**

Загатоўка сьвіных скур справа новая. Кулак, бачачы вялізарнае значэньне загатовак сьвіных скур для сацыялістычнай прамысловасьці, усімі мерамі імкнецца перашкодзіць выкананьню пляна, сарваць бесьперабойную работу сацыялістычнай прамысловасьці, сарваць забесьпячэньне рабочых і працоўных мас абуткам. Усё гэта патрабуе разгорнутай работы з боку партыйных арганізацый, сельсаветаў, прафсаюзаў, камсамолу, усяго друку і рабселькораў па мабілізацыі калгасьнікаў, беднякоў, серадніякоў-аднаасобнікаў на выкананьне пастановы ўраду аб абавязковай зьёмцы і здачы дзяржаве сьвіных скур, на рашучы адпор кулацкай агітацыі аб працягваньні дзедаўскага шкоднага звычаю асмальваць і апарваць сьвіныя тушы.

Весткі на 20 лютага гавораць аб тым, што работа па загатоўцы сьвіных скур і наогул скурсыравіны некалькі аслабла. Так, **Гомельская** сетка па загатоўцы сьвіных скур выканала плян усяго толькі на 27,6 проц. **Мазырская** на 45,3 проц., **Магілеўская** на 51,4 проц. Па буйнай скурсыравіне на 20 лютага **Менскі** раён выканаў плян на 43,4 пр., **Аршанскі** на 52,6 проц. Яшчэ горш абстаіць справа з загатоўкай сабачых скур.

Неабходзен рашучы пералом у загатоўцы скурсыравіны. Нельга дапусьціць перабояў у рабоце фабрык і заводаў, якія апрацоўваюць скурсыравіну. Трэба **ўзмацніць масава-растлумачальную работу** аб значэньні скурсыравіны для сацыялістычнай прамысловасьці, для сацыялістычнага будаўніцтва. Разам з гэтым неабходна больш суровымі мерамі змагацца з тымі, хто злосна парушае пастанову ўраду аб абавязковай зьёмцы і здачы сьвіных скур. Калгасьнікі, бедпякі і серадпякі-аднаасобнікі павінны рашуча выкрываць усіх зрыўшчыкаў загатовак сьвіных скур, кулацкае кадушніцтва, якое псуе скурсыравіну, якое зьяўляецца сродкам спэкуляцыі.

Усю работу па загатоўцы скурсыравіны трэба цесна ўвязаць з работай па правядзеньні веснавой сельскагаспадарчай кампаніі так, як мы гэта робім па лініі ільназагатовак і хлебазагатовак. **За загатоўку сьвіных скур, за загатоўку наогул скурсыравіны трэба змагацца так, як мы змагаемся за лён і хлеб.**

Нізавы друк і рабселькоры, сваю работу па конкурсу „Правды“ на лепшае правядзеньне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і загатовак павінны ўвязаць з бальшавіцкай барацьбой за загатоўку скурсыравіны.

Раённыя газэты гэтаму пытаньню павінны надаць належную ўвагу.

Рад раённых газэт (**„Палеская Правда“**) зусім абыходзілі пытаньне загатоўкі скурсыравіны. Гэтаму трэба пакласьці канец. Раённыя газэты павінны актыўна ўключыцца ў барацьбу за сьвіную скуру, за скурсыравіну для сацыялістычнай прамысловасьці.

**Ул. Дуброўскі.**

---

# Папраўкі

У нумары 3 часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ трапіліся наступныя памылкі: на 12-й старонцы, у трэцім радку першай калёнкі напісана: „завочным навучаньнем“, а трэба чытаць **„вочным навучаньнем“**. На гэтай-жа старонцы 7 і 8 абзацы трэба чытаць неадрыўна, пасьля слова „будзе“ ніякага знаку прыпынку не патрэбна. Акрамя таго, на гэтай-жа самай старонцы і калёнцы ў 35-м радку напісана „... тэма для пісьмовай працы, у якой тыя асноўныя пытаньні...“, трэба чытаць **„тэма для пісьмовай працы, у якой будуць зьмешчаны тыя асноўныя пытаньні...“**

На 14 старонцы ў чацьвертым абзацы, у 4-м радку напісана: лябараторнай крытыкі“, а трэба чытаць: **„лябараторнай практыкі“**.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

5
1932
САКАВІК

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР



ЗЬМЕСТ



## Арганізавана сустрэць вясну

Пасьпяхова правесьці веснавую пасеўную кампанію—баявая задача ўсёй КП(б)Б, усёй пралетарскай грамадзкасьці ў апошнім заключным годзе першай пяцігодкі. У гэтую веснавую пасеўную кампанію перад намі стаяць awграмаднейшай важнасьці гаспадарча-палітычныя задачы. Па БССР мы павінны засеяць у гэтым годзе яравога кліну ня менш як 2 мільёны 850 тыс. *га.* Паводле пляну, трэба засеяць 700 тыс. *га* бульбы, 380 тыс. *га* кармовых траў, 55 тыс. *га* караньплодаў і 370 тыс. *га* тэхнічных культур (лён, каноплі). Трэба дабіцца павышэньня ўраджайнасьці збожжавых культур ня менш як на 12 проц., тэхнічных—на 15 проц. і бульбы—на 20 проц.

Таму, падрыхтоўцы да веснавой сяўбы павінна быць зьвернута выключная ўвага партыйных, савецкіх, камсамольскіх арганізацый і ўсёй калгаснай сыстэмы. Кожная з гэтых арганізацый павінна памятаць, што посьпех правядзеньня сяўбы залежыць іменна ад папярэдняй падрыхтоўчай работы, ад арганізаванасьці кожнага саўгасу і калгасу, ад рэалізацыі шасьці ўмоў тав. Сталіна.

Рашаючай умовай пасьпяховага выкананьня плянаў веснавых работ зьяўляецца правільвая арганізацыя працы. Пляны сяўбы павінны быць зараз-жа даведзены да кожнай брыгады, да кожнага ў асобку калгасьніка з тым, каб да пачатку палявых работ кожная брыгада ведала вучастак, на якім яна будзе працаваць, які інвэнтар і рабочая жывёла будзе да яе прымацавана. Працоўная сіла калгасу павінна быць расстаўлена так, каб ніводная хвіліна ў час сяўбы ня была патрачана дарма, каб **правесьці ўсю веснавую сяўбу ў 10—15 дзён.**

Калгасная брыгада павінна заняць цэнтральнае месца ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 4 лютага гэтага году ўказаў, што **„важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада. У адпаведнасьці з вопытам лепшых сельскагаспадарчых арцеляй ЦК лічыць мэтазгодным арганізацыю ў калгасах брыгад з сталым складам калгасьнікаў з тым, каб як правіла такія брыгады ўтваралі асноўныя сельскагаспадарчыя работы на працягу ўсяго году, на пэўных вучастках. Гэтым брыгадам калгас вылучае на час іх работы неабходныя машыны, інвэнтар і рабочую жывёлу, за становішча якіх цалкам адказвае брыгада".**

Барацьба за якасьць калгаснай вытворчасьці, за высокі ўраджай, высокую прадукцыйнасьць жывёлагадоўлі—зьяўляецца галоўным лёзунгам заключнага году першай пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы. **„Прадукцыйнасьць у працы,**—вучыў нас У. І. Ленін,—**гэта ў выніку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу".** Дамагчыся рашаючых якасных паказчыкаў у калгаснай вытворчасьці і ўзьняцьця прадукцыйнасьці і эфэктыўнасьці працы ў калгасах—магчыма толькі пры ўмове няўхільнага ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў", пры ўмове ажыцьцяўленьня ў кожным калгасе 6-ці ўмоў правадыра нашай партыі тав. Сталіна.

**Якасьці падрыхтоўкі да веснавой сяўбы павінна быць зьвернута выключная ўвага.**



Правільны севазварот—магутны сродак барацьбы за высокі ўраджай нашых сацыялістычных палёў. З вясны гэтага году ўсе саўгасы і калгасы павінны прыступіць да ўвядзеньня правільных севазваротаў. Наркамзем БССР выдаў спэцыяльную пастанову аб увядзеньні ў сацыялістычным сэктары севазваротаў. Райземаддзелы і райкалгассаюзы павінны зараз-жа прыступіць да ажыцьцяўленьня гэтай пастановы.

Аграмаднейшыя задачы, якія паставіла партыя ў веснавую сельскагаспадарчую кампанію гэтага году патрабуюць бальшавіцкіх тэмпаў у падрыхтоўцы да сяўбы, патрабуюць шырокай мабілізацыі калгасных мас і беднякоў і серадніакоў-аднаасобнікаў на пасьпяховае ажыцьцяўленьне пастаўленых партыяй задач. Аднак, зьвесткі з месц гавораць аб тым, што падрыхтоўка да веснавой сяўбы праходзіць зусім незадавальняюча.

Рамонтнай кампаніі, як важнейшай састаўной часткі падрыхтоўкі да сяўбы, да гэтага часу яшчэ не нададзены баявыя тэмпы. Рамонт трактароў, сельскагаспадарчых машын і інвэнтару павінен быў поўнасьцю скончан да 1 сакавіка, а між тым на 1-е сакавіка плян рамонту трактароў быў выканан усяго толькі на 42,4 проц. (заданьне 1.746, адрамантавана 740 трактароў); планавае заданьне рамонту плугоў выканана толькі на 21,9 проц., сеялак—на 42,7 проц. і павозак—на 8,4 проц.

Такое становішча мы маем і з засыпкай насенных фондаў. Па зьвестках Наркамзему на 1 сакавіка пляны засыпкі насенных фондаў выкананы ўсяго толькі на 53,3 проц., у тым ліку па збожжу на 59,9 проц., тэхкультурах—40,4 проц. і па бульбе на 53,2 проц. Асабліва ганебна адстаюць у выкананьні плянаў засыпкі насенных фондаў Чэрыкаўскі раён, які выканаў усяго толькі на 0,3 проц. плянавага заданьня, Жлобінскі—3,8 проц., Копыльскі—7,5 проц.

Работу па стварэньні насенных фондаў трэба зараз-жа перавесьці на ўдарныя рэйкі. Трэба мабілізаваць калгасныя масы і беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў на выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) і Саўнаркому СССР, якія ўказваюць „усім **партыйным і савецкім арганізацыям на тое, што цэнтральнай задачай іх работы ў вёсцы ў бліжэйшыя тыдні зьяўляецца стварэньне насенных калгасных фондаў у разьмеры, неабходным для поўнага выкананьня пасеўных плянаў“.**

Пытаньне ўзьняцьця ўраджайнасьці ў гэтую веснавую сяўбу паўстае ва ўсім аб'ёме. Аднак, гэтае пытаньне вельмі слаба яшчэ знаходзіць сваё практычнае вырашэньне на месцах. Слаба праводзіцца барацьба за ўкараненьне агратэхнікі ў сельскай гаспадарцы. Такое простае аграмерапрыемства, як ачыстка насеньня—праходзіць вельмі марудна. Па зьвестках на 1-е сакавіка плян ачысткі насеньня выканан усяго толькі на 22,6 проц. Плян па завозу вапны выканан на 3,9 проц., па збору попелу—на 25,5 проц.

Усе гэтыя лічбы і факты прымушаюць нас біць трывогу. Партыйныя, савецкія, камсамольскія арганізацыі і ўся калгасная сыстэма павінны ўзяць сапраўдныя бальшавіцкія тэмпы ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Трэба **„мабілізаваць найшырэйшыя масы калгасьнікаў і рабочых саўгасаў на хутчэйшую ссыпку насенных фондаў, ачыстку і пратручваньне насеньня, правядзеньне гатункавага абмену насеньня, вывазку са станцыі мінэральнага ўгнаеньня, вывазку гною на палі, выпрацоўку севазваротаў, падрыхтоўку і захаваньне каня да вясны і г. д.“** (з ліста ЦК КП(б)Б). Максымальна скарыстаць кожны дзень, кожную гадзіну зімовага пэрыяду з тым, каб вясна не застала нас непадрыхтаванымі. Рашуча змагацца з апартуністычнай стаўкай на самацёк у правядзеньні гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі, з усякімі разважаньнямі аб тым, што „сяўба яшчэ далёка, пасьпеем“.

Калгасная сыстэма павінна па сапраўднаму арганізаваць апэрацыйнае кіраўніцтва калектыўнымі гаспадаркамі, якое, разам з чоткімі плянамі, мае выключнае значэньне для пасьпяховай падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы.

Вакол падрыхтоўкі да веснавой сяўбы адбываецца жорсткая клясавая барацьба. Кулак, скарыстоўваючы дробна-ўласьніцкія настроі адсталай часткі калгасьнікаў, заядла выступае супроць выкананьня загатовак, імкнецца сарваць стварэньне насенных фондаў і тым самым пашкодзіць пасьпяховай падрыхтоўцы да сяўбы, пашкодзіць арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасу. Пралезшы ў калгас кулак, у замаскаванай форме ўсімі сіламі стараецца падарваць калгасную вытворчасьць, шкодзіць на кожным кроку.

Задача партыйных арганізацый і кожнага ў асобку камуніста—павысіць клясавую пільнасьць. Мабілізаваць калгасныя масы на барацьбу з кулаком і яго агентамі—правымі і „левымі“ апартуністамі. Ачыстка калгасаў ад клясава-варожых элемэнтаў—адна з умоў пасьпяховага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, адна з умоў далейшага пасьпяховага калгаснага будаўніцтва.

**Усе сілы на завяршэньне падрыхтоўкі да сяўбы, на пасьпяховае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі.**

**Збор насеньня — цэнтральная задача на даным этапе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.**

# Не здамо пераможных пазыцый

(*Полацкі раён*)

Заваяваўшы першынство ў падрыхтоўцы і правядзеньні 2-й бальшавіцкай сяўбы, калгасьнікі калгасу „Гігант“ на агульным сходзе пастанавілі:

Яшчэ з большай напруджанасьцю змагацца за датэрміновае і поўнае выкананьне плянаў 3-й бальшавіцкай вясны.

Гэтая пастанова не засталася на паперы. Калгасьнікі зараз-жа пасьля сходу прыступілі да практычнага ажыцьцяўленьня, узятых на сябе абавязкаў. І ўжо на сёнешні дзень ёсьць бліскучыя вынікі пастановы калгасьнікаў. Ачыстка насеньня праведзена на 100 проц. Складзен і абгаворан плян правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі, паводле якога значна павялічваецца пасеўная плошча. Уся рабочая сіла разьбіта на брыгады. За кожнай брыгадай і калгасьнікам замацован пэўны інвэнтар і цягавая сіла. Пры калгасе арганізованы курсы па падрыхтоўцы брыгадзіраў і арганізатараў працы, на якіх займаецца 27 чалавек. Насенныя і кармовыя фонды засыпаны поўнасьцю. Сельскагаспадарчы інвэнтар і машыны адрамантаваны. Сабрана 1 тыс. 312 *кг* попелу. Кожны калгасьнік, які ўваходзіць у палявыя брыгады прыгатаваў сабе гужы, лейцы, хамут і наогул усе прылады патрэбныя для выезду ў поле. Поўную падрыхтоўку да веснавой сяўбы калгасьнікі абавязаліся закончыць у апошніх днях лютага і ў гэтыя-ж дні зрабіць праверку гатоўнасьці—пробны выезд у поле.

Уся падрыхтоўчая праца цесна ўвязваецца з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгаснае гаспадаркі. З асаблівай цікавасьцю калгасьнікі прапрацавалі пастанову ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага аб чарговых задачах арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў.

Пасьля абгаварэньня пастановы атрымаўся вялікі зрух у працы калгасьнікаў. Большасьць іх аб'явілі сябе ўдарнікамі па выкананьні плянаў веснавой сяўбы.

Маючы такія колькасныя і якасныя паказчыкі можна з упэўненасьцю сказаць, што калгасьнікі калгасу „Гігант“ даб'юцца бальшавіцкай перамогі, замацоўваючы вопыт 2-й бальшавіцкай вясны і ў пасьпяховасьці 3-й бальшавіцкай вясны.

**К. М.**

# Ліквідаваць прарывы ў падрыхтоўцы да сяўбы

(*Шклоўскі раён*)

Калгас „Завет Ільліча“ разгарнуў упартую работу па падрыхтоўцы да трэцяй бальшавіцкай вясны. Сельскагаспадарчыя машыны і інвэнтар, якія падлягаюць рамонту, разьбіты па сартох: на капітальны рамонт, на сярэдні і бягучы, для чаго вылучана адказная брыгада па рамонту.

Плян веснавога севу на 1932 г. абгавораны на сходзе калгасьнікаў і высунуты сустрэчны звыш на 15,5 *га*. Калгас павінен засеяць гэтай вясной рознымі культурамі 328,5 *га*, для чаго створаны насенфонд і страхавы па збожжавых культурах, а таксама кармавы і фуражны фонды.

Поруч з дасягненьнямі ў калгасе „Завет Ільліча“ ёсьць і недахопы. Напрыклад, у калгасе да гэтага часу, з прычыны таго, што райкалгассаюз не даслаў формы для вытворча-фінансавага пляну, вытворча-фінансавы плян ня складзен. У 4-м аддзяленьні калгасу коні знаходзяцца ў дрэнным становішчы. Канюхі Андрэйчыкаў А. і Кухараў М. нядбайна адносяцца да сваіх абавязкаў. Ёсьць выпадкі, калі коняй калгасьнікі бяруць самаўласна, а пасьля кідаюць на двары бяз догляду. Станкі ў канюшнях разьбіты, коні калечацца і за такое становішча коняй канюхі не адказваюць, а брыгадзір 4-й брыгады Майсеяў і праўленьне калгасу—на гэта ніякай увагі не зьвяртаюць і ня цікавяцца, каб зьнішчыць такое недапушчальнае становішча ў 4-м аддзяленьні гаспадаркі.

Задача калгасьнікаў і праўленьня калгасу „Завет Ільліча“—неадкладна зьвярнуць максымум увагі на ліквідацыю маючыхся прарываў ў 4-м аддзяленьні і скласьці вытворча-фінансавы плян, з тым, каб трэцюю бальшавіцкую вясну сустрэць у поўнай гатоўнасьці.

**Я. Новікаў.**



# Не дапусьціць зрыву загатоўкі насеньня

(*Полацкі раён*)

Згодна пастановы Наркамзему БССР загатоўка насеньня траў, караньплодаў і гародніны павінна быць закончана да 1-га студзеня 1932 году. Аднак, Полацкія загатоўчыя арганізацыі і да гэтага часу яшчэ нічога практычнага не зрабілі для выкананьня гэтага заданьня. Ні райкалгассаюз, ні насенкантора ніякіх мер ня прымае для хутчэйшага скончаньня загатовак.

У выніку такіх адносін, паказчыкі выкананьня пляну загатоўкі насеньня зусім нязначныя. Паводле пляну па раёну павінна быць загатоўлена 50.000 *кг* вікі, а загатоўлена ўсяго толькі 8.100 *кг*. Замест 6 000 *кг* насеньня канюшыны загатоўлена 264 *кг*. Цыбулі патрэбна 1.000 *кг*, а загатоўлена толькі 200. Яшчэ горш абстаіць справа з загатоўкай гародніны—гуркоў, моркві, буракоў, бручкі і інш., пляны якіх ня выкананы і на 15 проц.

Нявыкананьне плянаў тлумачыцца тым, што загатоўчыя арганізацыі раёну і райкалгассаюз спадзяюцца на самацёк у загатоўцы насеньня.

Таксама ў радзе сельсаветаў недадзены цьвёрдыя заданьні кулацка-заможным гаспадаркам па здачы насеньня. Так, па Махіроўскаму, Кушлікоўскаму сельсаветах, у якіх налічваецца найбольшая колькасьць кулацкіх гаспадарак, ні аднэй гаспадарцы не даны цьвёрдыя заданьні па загатоўцы насенных траў, караньплодаў і гародніны.

З прычыны недахопу насеньня ў радзе калгасаў скарачаюцца пляны засеву гародніны, канюшыны і караньплодаў.

Такое становішча ня можа быць цярпімым. Райкалгассаюз павінен зара-ж прыняць рашучыя меры, каб забясьпечыць калгасы насеньнем, не дапусьціць скарачэньня пасеўных плошчаў.

**Мікола Камунны.**

# Райземаддзел і Райкалгассаюз ня маюць зьвестак

(*Мазырскі раён*)

Пастановай ЦК і СНК даны пэўныя тэрміны па стварэньні насенных, страхавых і фуражных фондаў. Засыпка насенных фондаў—надзвычай важная кампанія, асабліва таму, што калгасныя палі павінны быць цалкам забясьпечаны ўласным насеньнем, скарыстоўваючы ўнутраныя рэсурсы.

Асабліва павінна быць зьвернута ўвага на стварэньне і аграмаджаньне насенных фондаў новаўступіўшых калгасьнікаў.

Па раёну калгасным сэктарам толькі распачынаецца ачыстка насеньня і рамонт інвэнтару, а аднаасобным сэктарам да гэтага часу яшчэ нічога ня робіцца па падрыхтоўцы да сяўбы.

Дакладнага вучоту аб патрэбнай колькасьці насеньня для абсемяненьня вызначанай плошчы па сэктарох да гэтага часу ў Райкалгассаюзе і райземаддзеле няма. Райземаддзелу і Райкалгассаюзу неабходна забясьпечыць апаратнае кіраўніцтва ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, падначальваючы ўсю работу 6-ці гістарычным умовам тав. Сталіна, вядучы бязьлітасную барацьбу са скажэньнямі лініі партыі ў калгасным будаўніцтве.

Рабселькоры, зьяўляючыся кіраўнікамі грамадзкай думкі, ударнікамі ў выкананьні плянаў, павінны яшчэ з большай актыўнасьцю праводзіць у жыцьцё мерапрыемствы па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, прыцягваючы калгасны актыў, чым і забясьпечым пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне плянаў трэцяй бальшавіцкай сяўбы.

Брыгада „Шляхі Калектывізацыі“
**А. Кузьмянок, С. Зайцаў, Кліменка.**

# Рашуча змагацца з недаацэнкай каня

(*Крупскі раён*)

У калгасе „Іскра“, Траяноўскага сельсавету недаацэньваецца пастанова партыі і ўраду аб самых уважлівых адносінах да рабочых коняй. Канюшні ў калгасе вельмі брудныя, падсьцілка зьмяняецца вельмі рэдка, гной з канюшань ня вывозіцца і г. д. 24 рабочыя кані і жарабяты стаяць без станкоў у агульным хлеве; праўленьне лічыць, што гэта горшыя коні і ім не патрэбны станкі. Конюхі да сваіх абавязкаў адносяцца па-казённаму, абязьлічка пануе ва ўсю ў доглядзе за коньмі. 6 гістарычных умоў тав. Сталіна ў гэтым зьвяне работы не распрацованы.

Такія надзвычай дрэнныя адносіны далі ўжо свае адмоўныя вынікі—больш 10 коняй аказаліся непрацаздольнымі.

Ня лепшае становішча з канём і ў калгасах: „Новы Шлях“, „Сьцяг Працы“, Ігрушэцкага с.-савету.

Трэба рашуча ўдарыць па тых, хто недаацэньвае каня. Ні на адну хвіліну нельга забываць таго, што конская цягавая сіла адыгрывае і будзе яшчэ адыгрываць вялікую ролю ў сельскай гаспадарцы.

Узбраеньне сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі машыннай тэхнікай і пашырэньне трактарнага парку не адхіляе патрэбы ў конскай цягавай сіле, а патрабуе правільнага, умелага камбінаваньня машыннай і жывой цягавай сілы.

Праўленьні калгасаў „Іскра“, „Новы шлях“ і „Сьцяг Працы“ павінны ў самым тэрміновым парадку забясьпечыць нармальны догляд за коньмі.

**Р. Дамянікоў.**

# СЕВАЗВАРОТЫ І ІХ ТЫПЫ ДЛЯ КАЛГАСАЎ ІЛЬНА-ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫХ РАЁНАЎ

ЦК КП(б)Б і СНК БССР у сваёй пастанове „аб правядзеньні веснавой сельскагаспадарчай кампаніі 1932 г.“—паставілі перад сельскай гаспадаркай **„дабіцца павышэньня ўраджайнасьці: а) збожжавых культур на 12 проц.; б) траў і тэхнічных культур (лён і каноплі)—на 15 проц.; в) бульбы на 20 проц.“.**

Для ажыцьцяўленьня задач павышэньня ўраджайнасьці—ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанавілі правесьці, як адно з галоўнейшых мерапрыемстваў—на працягу 1932 г. **арганізацыю правільнага, у адпаведнасьці са спэцыялізацыяй сельскай гаспадаркі, севазвароту ва ўсіх саўгасах і калгасах.**

У справе павышэньня ўраджайнасьці на даным этапе вялізарнае значэньне павінен мець правільны севазварот. Тав. Якаўлеў па гэтаму пытаньню сказаў, што „ад севазвароту, як сродка павысіць ураджай, як сродка барацьбы з пустазельлем, як сродка палепшыць структуру глебы, мы ніколі не адмаўляліся. Глупства, што севазварот супярэчыць спэцыялізацыі. Спэцыялізацыя гаспадаркі вымагае ад севазвароту адпаведнага інтарэсам галоўнай культуры, але ні ў якім разе яго не адмяняе“. Севазварот спэцыялізаванай гаспадаркі павінен быць пабудованы ў строгай адпаведнасьці з напрамкам гаспадаркі і падпарадкаваны задачам яе спэцыялізацыі; пры гэтым трэба мець на ўвазе задачу поўнага выкананьня аб'ёму вытворчасьці, які вызначаецца плянавым заданьнем для кожнай асобнай гаспадаркі як па асноўным, так і па другарадным для гэтай гаспадаркі прадуктам.

Ва ўмовах сацыялістычнай спэцыялізаванай буйной сельскай гаспадаркі (саўгасу, калгасу)—пабудова севазвароту павінна быць цалкам падпарадкавана задачам выкананьня плянавага заданьня. Гэты севазварот павінен стаць важнейшым сродкам у справе найлепшага, як у колькасных, так і якасных адносінах, выкананьня і перавыкананьня плянавага заданьня гаспадаркі пры ўмове найбольшага павышэньня прадукцыйнасьці працы, на аснове ўжываньня сацыялістычных мэтадаў працы (сацспаборніцтва і ўдарніцтва), пры ўсямерным зьніжэньні сабекошту прадукцыі. Усякія спробы працягнуць у практыку будаўніцтва саўгасаў і калгасаў старога разуменьня севазвароту, па якому севазварот вызначае плянавае заданьне, а не наадварот—зьяўляюцца шкодніцкімі, з якімі трэба весьці самую бязьлітасную барацьбу.

Севазвароты павінны мець гібкія формы, з тым, каб поўнасьцю забясьпечыць штогодныя плянавыя заданьні сацыялістычнай сельскай гаспадаркі па пасеўных плошчах і па павышэньні ўраджайнасьці. Падпарадкоўваючыся цалкам задачам спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, адпавядаючы інтарэсам і задачам сельскай гаспадаркі, адпавядаючы інтарэсам і задачам сельскагаспадарчай спэцыялізацыі данай гаспадаркі,—севазварот, разам з тым, зьяўляецца моцным сродкам у справе барацьбы за высокі, устойлівы ўраджай, у справе падвышэньня якасьці працы ў калгасах і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў.



Рамонт плугоў у саўгасе „Гараева“.

У севазвароце трэба ўстанавіць такое чаргаваньне культур, каб забясьпечыць патрабаваньні асобных расьлін у спажыўных матэрыях—і адпаведны разьмер падвышэньня ўраджайнасьці гэтых расьлін, а таксама забясьпечыць дробна-камкаватую структуру глеб і максымальную чыстку палёў ад пустазельля. Севазварот павінен быць ня толькі гібкім, але і больш-менш кароткім, каб забясьпечыць хуткае яго правядзеньне ў жыцьцё і хуткія зьмены ў гэтым севазвароце ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі плянавага заданьня гаспадаркі.

Кожны калгас і саўгас павінен распрацаваць свой севазварот на аснове сваіх канкрэтных плянавых заданьняў і з вучотам усіх асаблівасьцяй глебы і папярэдніх культур, якія высяваліся на тым, ці іншым вучастку.

Згодна пастановы Наркамзему БССР—пры ўвядзеньні правільных севазваротаў неабходна кіравацца наступнымі асноўнымі палажэньнямі:

„а) севазварот павінен забясьпечыць выкананьне ўстаноўленых для раёну заданьняў, як у частцы пасеўных плошчаў і складу культур, так і ў галіне ўздыму ўраджайнасьці; б) севазварот павінен адпавядаць у кожным паасобным выпадку інтарэсам і задачам сельскагаспадарчай спэцыялізацыі адпаведнага раёну, ці калгасу; в) севазварот у БССР павінен мець адной з сваіх карэнных мэт барацьбу з пустазельлем і, таму павінен уключыць абавязкова занятыя папары, як раёнах з дастатковаю вільгацьцю, прапашныя культуры,аднасадовыя і шматгадовыя травы; г) севазварот павінен быць рухомым і кароткім для таго, каб ён мог адбівацца на магчымых зьменах у плянавым заданьні па пасеўнай плошчы і жывёлагадоўлі, адпаведна запатрабаваньням народнай гаспадаркі, мэханізацыі сельскагаспадарчых працэсаў і ўвядзеньня новых культур; д) севазварот павінен забясьпечыць найбольш рацыянальную арганізацыю працы, разгрузку ў найбольш напружаныя пэрыяды палявых работ, забесьпячэньне найбольш сваячасовага выкананьня вытворчых заданьняў (пасеў, догляд, уборка, апрацоўка), з вызваленьнем рабочых рук для адыходу ў прамысловасьць і будаўніцтва“.

Якія-ж севазвароты (як схэмы, якімі можна кіравацца пры прапрацоўцы севазварота ў кожнай асобнай гаспадарцы) можна рэкамэндаваць для калгасаў ільнаводных раёнаў БССР?

Устаноўленыя Наркамземам тыповыя севазвароты для ільна-жывёлагадоўчых калгасаў прадугледж-

ваюць процантныя адносіны ільну да ўсіх пасеваў— ад 25 да 30 проц. Пры гэтым—за аснову біруцца наступныя моманты: паўторнасьць пасеваў ільну, па ільну—дапусьціма ня больш 2-х разоў; разьмяшчэньне ільну ў севазвароце біроцца канцэнтраванае, каб даць большую магчымасьць мабілізацыі ўраджайнасьці глебы паміж ільнянымі пасевамі. Пры ўвядзеньні новых зямель у севазварот—яны ў першую чаргу займаюцца ільном.

Лепшым папярэднікам ільна ў севазвароце зьяўляецца—канюшынішча, якое стварае для ільна добрую глебавую структуру, робіць глебу больш багатай азотам, а таксама ачышчае гэтую глебу ад пустазельля. Таксама добрым папярэднікам для ільна будуць бабовыя расьліны; здавальняючымі—абсыпныя культуры і нарэшце--землі з-пад збожжавых угноенных азімых і яравых культур.

На бліжэйшыя гады для калгасаў ільнаводных раёнаў рэкамэндуюцца наступныя тыпавыя схэмы севазваротаў:

Для севазваротаў з 30 проц. ільну (па цяжкіх і сярэдніх суглінках): 1) ячмень і бабовыя (па 10 проц.); 2) авёс па ячменю з падсевам канюшыны і жыта па бабовых (па 10 проц.); 3) канюшыны і абсыпных па жыце (па 10 проц.); 5) лён па ільну (10 проц.).

Другі варыянт гэтага севазвароту з той-жа прапорцыяй ільну (30 проц.): 1) ячмень і лён; 2) азімае жыта з падсевам на палове поля канюшыны; 3) канюшыны 1-га году і яравыя (збожжавыя і бабовыя); канюшыны 2-га году і абсыпныя; 5) лён.

Для севазваротаў з 25 проц. ільну (па лёгкіх суглінках і больш зьвязных супясях): 1) віка—авёс на зялёны корм і сілосныя на корм (8,4 проц.) і ячмень (8,3 проц.); 2) азімае жыта і пшаніца з падсевам на на палове поля канюшыны (16,6 проц.); 3) Канюшыны 1-га году (8,4 проц.) і абсыпныя (8,3 проц.); 4) канюшына 2-га году (8,4 проц.) і бабовыя збожжавыя на зерня (8,3 проц.); 5) лён (16,6 проц.); 6) лён па ільну (8,4 проц.), яравыя збожжавыя і бабовыя (8,3 проц.).

Гэтыя севазвароты даюць поўную магчымасьць разьвіцьця і жывёлагадоўлі, як галіны, спадарожнай ільнаводзтву. Для большай гібкасьці севазваротаў і здольнасьці іх бесхваробна змяняць адносіны культур—чаргаваньне, неабходна арганізоўваць у мэтах вытворчых клетак (вучасткаў), а ня ў межах цьвёрда ўстаноўленых палёў севазвароту.



Разам з увядзеньнем адпаведнага севазвароту, ільнаводныя гаспадаркі павінны поўнасьцю забясьпечыць ажыцьцяўленьне ўсіх іншых аграправіл, як напрыклад: апрацоўку глебы пад лён такім чынам, каб яна садзейнічала разлажэньню арганічных рэштак, накапленьню і захаваньню вільгаці (там, дзе гэта неабходна), зьнішчэньне пустазельля і розных шкоднікаў ільну; густату і час пасеву ільну (норма высеву пры культуры ільна на валакно пры 100 проц. гаспадарчай годнасьці насеньня—па ільну-даўгунцу— ад 1 да 1,5 *цнт.* на 1 *га*; лепшы тэрмін пасеву— раньні, з канца красавіка да 15 мая; сярэдні пасеў— з 15 мая па 1 чэрвеня; позьні—з 1 па 10 чэрвеня); спосабы пасеву і глыбокія задзелкі (абавязкова пасеў радковым сяўнікам, а пры яго адсутнасьці—раскіданым, на глыбіню 2-3 *см*, у залежнасьці ад глебавых і кліматычных умоў, а на цяжкіх, вільготных глебах—на 1-2 *см*); прымяненьне мінэральных угнаеньняў пад лён з абавязковым угнойваньнем папярэднікаў ільну—гноем; прымяненьне агратэхнічных мерапрыемстваў па барацьбе з пустазельлем і хваробамі ільну: праверка насеньня на чыстату і ўсхожасьць, ачыстка насеньня ільну, пратручваньне насеньня, зьнішчэньне межаў, абкошваньне дарог, канаў, паліва засьмечаных усходаў ільну, ворыва ільнянога поля пасьля ўборкі ільну, апырскваньне заражаных пасеваў ільну атрутамі і г. д.

**С. К.**



Менская МТС да сяўбы
не падрыхтавана.
Машыны знаходзяцца
пад сьнегам.

# Навучымся хутка выяўляць патрэбнасьць у фосфары

Мэтад хуткага вызначэньня патрэбнасьці глеб у фосфарнай кіслаце мае сваёй задачай устанавіць тры градацыі: 1) глеба багатая і ня мае патрэбы ў фосфарным угнаеньні, 2) сярэдняя патрэбнасьць і 3) вялікая патрэбнасьць.

Калі мы зможам у поўным маштабе ахапіць вызначэньне патрэбнасьці ў фосфарнай кіслаце толькі па гэтых трох градацыях, дык і ў такім выпадку дамо сацыялістычнаму земляробству магутны вагар для рацыянальнага выкарыстаньня фосфарнакіслых угнаеньняў. Гэтым мы з'эканомім штогодна некалькі соцен тысяч рублёў на пастаноўку палявых і вэгетацыйных досьледаў у начыньні і некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў у самой вытворчасьці, дзякуючы таму, што ўгнаеньні будуць уносіцца ў больш поўнай адпаведнасьці з запатрабаваньнямі глеб.

Прапануемы мэтад заснован на вывучэньні палявых і вэгетацыйных досьледах 36 розных глеб Ленінградзкай вобласьці. Дасьледуемымі расьлінамі служылі авёс і ячмень, таму і вывады мэтадаў пакуль абмяжоўваюцца толькі адносна гэтых двух расьлін.

У аснову вызначэньня ўзята тая колькасьць фосфарнай кіслаты, якая пераходзіць у раствор пры апрацоўцы глебы 0,2 нармальнай азотнай кіслаты на працягу 7—10 мінут пры адносінах глебы да раствору 1 : 3. (Выдзеленая кіслата вызначаецца пры дапамозе аднаго з варыянтаў мэтаду Дэніжэ).

Для работы неабходна мець наступныя рэактывы: 0,2 нармальнай азотнай кіслаты; раствор малібдэнава-кіслага амонія ў салянай кіслаце, які, лёгка прыгатаваць наступным чынам: 12 грамаў хэмічна-чыстага малібдэнава-кіслага амонія расчыняецца пры награваньні ў 100 *кб. см* вады, раствор фільтруецца гарачым, да яго пасьля астужваньня дадаецца (перамешваючы) 200 *кб. см* моцнай салянай кіслаты (36 проц.) і потым 100 *кб. см* вады.

Назавем гэты раствор „А“.

З гэтага раствору па меры патрэбы атрымліваецца шляхам разьвядзеньня вадою раствор „Б“, роўны 1,0 нармальнай салянай кіслаты. З раствору „Г“, таксама шляхам разьвядзеньня вадою, можна прыгатаваць раствор „Б“, маючы 0,6 нармальнай салянай кіслаты.

Хэмічна чыстую алавяную палачку, прыкладна 5 *см* даўжыні і дыямэтрам 4-5 *мм* для зручнасьці работы пры дапамозе гумовай, злучаюць са шклянай палачкай у 10—12 *см*.

Усе рэактывы павінны быць хэмічна чыстымі, вольнымі ад фосфарнай кіслаты і мыш'яку.

Для аналізу ў колбачку бярэцца 10 *г* паветрана-сухой глебы; уносіцца туды 30 *кб. см* 0,2 нармальнай азотнай кіслаты. Колбачка на працягу 3-4 мінут устрахваецца і потым столькі-ж часу адстайваецца. Пасьля гэтага зараз-жа фільтруецца праз складчаты фільтр. З фільтрату бярэцца ў прабірку 5 *кб. см* і дадаецца столькі-ж раствору „Б“. Усё гэта ўстрахваецца і потым апускаецца ў раствор алавяная палачка (на 5 сэкунд). Устрахваньне і 5-сэкунднае апусканьне алавянай палачкі паўтараецца два разы запар.

На глебах, багатых фосфарнай кіслатой (чорназем), досыць аднаразовага ўздзейнічаньня алавянай палачкі. Зьявіўшаяся афарбоўка ўказвае на колькасьць фосфарнай кіслаты, інтэнсыўна сіні колер азначае, што глеба зусім забясьпечана фосфарнай кіслатой і ня мае патрэбы ва ўгнаеньні. Слаба сіні або зеленаваты, а таксама бясколяровы раствор кажа, што глеба рэзка мае патрэбу ў фосфарнай кіслаце. Сярэднія па сіневатасьці або зеленаватасьці, паказваюць, што глеба мае сярэднюю патрэбу ў фосфарнай кіслаце.

У залежнасьці ад працяглаясьці прабываньня алавянай палачкі ў растворы, ад ліку і інтэнсыўнасьці яе пакручваньня, сіла афарбоўкі зьмяняецца. Чым даўжэйшая апрацоўка, тым мацней каляровыя тоны.

У якасьці стандарту для практычнай работы досыць выбраць глебу высокай ураджайнасьці, якая не рэагуе далейшым падвышэньнем ураджаю на ўнясеньне фосфарнай кіслаты. 10 *г* гэтай глебы апрацоўваюцца паралельна з дасьледуемымі глебамі. Пасьля доўгай работы неабходнасьць стандарту адпадае. Для стандарту трэба браць глебу, блізкую па сваіх уласьцівасьцях да дасьледуемай. Нельга, напрыклад, параўноўваць падзольныя глебы са стандартам чарназёму.

Гэты мэтад мы дасьледвалі і ў палявых абставінах, бяручы пробу з няўгноенай дзялянкі. Адна трэць прабіркі напаўняецца вільготнай глебай, дадаецца 30 *кб. см* 0,2 нармальнай азотнай кіслаты і ў далейшым вялася апрацоўка, як яна апісана вышэй. Вынік аналізу атрымліваецца ў 15 мінут. Хуткасьць зьяўляецца асабліва каштоўнай у даным мэтадзе. Дакладнасьць яго для практыкі на блізкайшы час дастаткова.

Рэактывам „В“ можна карыстацца для папярэдняга дасьледваньня глебы. У такім выпадку бярэцца чвэрць прабіркі глебы свабоднай ад карэнчыкаў і дадаецца ў два разы большы па аб'ёму рэактыў „В“, а затым без папярэдняга фільтраваньня раствор апрацоўваецца алавянай палачкай. Глебы з бескаляровай афарбоўкай або слаба зеленаватай—бедныя фосфарытнай кіслатой і гэтым можна абмежаваць іх дасьледваньне.

Пры дасьледваньні глеб, якія даюць моцнае ўскіпаньне, неабходна нейтралізацыя вапны з наступнай апрацоўкай азотнай кіслатой і давядзеньнем раствору да 0,2 нармальнай па азотнай кіслаце.

Знайсьці адзіны унівэрсальны індыкатар для ўсіх розных глеб і культур нашага Саюзу немагчыма. Але трэба пачаць работу ў шырокім маштабе і па-новаму ўзяцца за распрацоўку спрошчаных мэтадаў, дазваляючых хутка і танна вызначаць патрэбнасьці глеб у фосфарна-кіслых угнаеньнях з улікам мясцовых прыродных і гаспадарчых умоў. Неабходна, каб вопытныя ўстановы безадкладна прыняліся за распрацоўку гэтых мэтадаў. Толькі мясцовыя арганізацыі, мабілізаваўшы ўвагу шырокай грамадзкасьці вакол гэтага пытаньня, могуць хутка практычна падыйсьці да закранутай праблемы.

Праф. **Кірсанаў.**

## УТАЧНІЦЬ НА МЯСЦОХ

(*Водзыў на артыкул праф. Кірсанава*)

Пытаньне хуткага вызначэньня даступнай расьлінам фосфарнай кіслаты ў глебе мае бясспрэчна вялікае практычнае значэньне. Спосаб, які прапануе т. Кірсанаў, вельмі просты і адзначаецца хуткасьцю, даючы магчымасьць арыентыровачна сыгналізаваць ступень патрэбнасьці глебы ў фосфарных угнаеньнях.

У далейшым спосаб, як відаць, мае патрэбу ва ўдасканаленьні прыстасоўна да розных тыпаў глебы ў розных раёнах, што патрэбна прапрацаваць мясцовым работнікам.

Праф. **В. Качаткоў.**

# Скарыстаць адкіды на ўгнаеньне

Прыгарадныя гаспадаркі патрабуюць вялікай колькасьці ўсіх відаў угнаеньняў. Тая колькасьць гною, якая будзе атрымоўвацца ў саміх гаспадарках на месцы амаль цалкам будзе скарыстана на парнікі, а на атрыманьне гною з гораду ў вялікай колькасьці разьлічваць ня прыходзіцца. З прычыны паступовага скарыстаньня ў гарадох гужавой цягавай сілы і замены яе мэханічным і аўтатранспартам. Задавальненьне патрэб прыгарадных гаспадарак ва ўгнаеньні, у значнай ступені можа і патрэбна ўтварыць шляхам скарыстоўваньня гарадзкіх адкідаў.

Гарадзкія адкіды і нячыстоты падзяляюцца на два віды—па характару і спосабу ачысткі гарадоў:

1) Сточныя воды (фекальныя)—прадукт каналізацыйнай ачысткі і 2) скідныя—прадукт асэнізацыйнай ачысткі, выграбных ям і вулічнага сьмецьця. Апошні від адкідаў зьяўляецца больш распаўсюджаным у сучасныя гады, паколькі ў нас гарадзкое насельніцтва абслугоўваецца каналізацыяй яшчэ недастаткова, і будзе пашырана на працягу бліжэйшых гадоў у выніку мерапрыемстваў камунальнага абслугоўваньня. Той і другі віды адкідаў у выніку ачысткі гораду звычайна пападае на скіднае месца, дзе і прападае без усякай карысьці для народнай гаспадаркі. У лепшым выпадку, калі арганізавана пад горадам асэнізацыйнае поле, або поле арашэньня, то на іх і пападаюць прадукты ачысткі гарадоў, дзе, пры ўмела арганізаванай справе скарыстаньня іх на ўгнаеньне, атрымоўваюцца высокія ўраджаі сельскагаспадарчых расьлін. Даныя агранамічнай лябараторыі Новарасійскага унівэрсытэту гавораць нам аб тым, што пры арашэньні можна атрымаць наступны ўраджай:

| | | |
|---|---|---|
| Буракоў сталовых | 135,2 | тон з *га* |
| Капусты | 90,2 | „ „ |
| Памідораў | 45,1 | „ „ |

Ня менш цікавыя вынікі даюць выграбныя адкіды і вулічнае сьмецьце. Па свайму спажыўному складу сьмецьце і выграбныя адкіды ні чым не адрозьніваюцца ад складу конскага гною.

У залежнасьці ад складу саміх адкідаў залежыць і склад спажыўных матэрый, але досьледы з адным толькі вулічным сьмецьцем паказалі, што яно амаль ня ўступае сьвежаму конскаму гною. Па досьледах Садова-гароднай станцыі пры б. Ціміразеўскай Акадэміі пад капустай пры ўгнаеньні вулічным сьмецьцем, як перагніўшым, так і ў сьвежым выглядзе, у параўнаньні з конскім гноем далі амаль аднолькавыя вынікі.

## Ураджай капусты з 1 *га*

| | | |
|---|---|---|
| Сьвежае сьмецьце, заворанае восеньню | 100 т. | 390,5 цнт. |
| „ „ „ вясною | 100 „ | 13,1 „ |
| Перагніўшае сьмецьце | 100 „ | 404,8 „ |
| Конскі гной сьвежы | 100 „ | 407,2 „ |

Сьвежае сьмецьце, унесенае вясною, як угнаеньне пасьпявае перагніць на працягу вясны і лета і забясьпечвае поўнасьцю спажыўнымі матэрыямі расьліны.

Часта вывазка сьмецьця з гораду на полі прыгарадных гаспадарак у гнілым выглядзе з дрэнным запахам зьвязана з цяжкасьцямі, ад якіх можна лёгка пазбавіцца шляхам кампаставаньня або высушваньня яго. Кампастуецца сьмецьце ў кучах за горадам вазоў па 20—25 у кожнай кучы, якая складаецца шырынёю ў 2 мэтры ў аснове 1,5 м. вышыні і 6—7 м. даўжыні. Раіцца кампастуемае сьмецьце зьмешваць са сточнымі водамі, або прадуктамі асэнізацыі, якія павышаюць каштоўнасьць сьмецьця. Праз 4—5 месяцаў сьмецьце губляе ўсе свае злавоньні і дае добры кампост, пульхную масу, ад якой лёгка аддзяляюцца шкло, жалеза і іншыя цьвёрдыя рэчы і кампост можна перавозіць у такім выглядзе ў гаспадарку на любую адлегласьць.

Высушваньне сьмецьця таксама пазбаўляе яго ад усякага злавоньня і дае лёгкую масу, якую з посьпехам можна перавозіць на любую адлегласьць і скарыстоўваць на ўгнаеньне.

Сьмецьце можна скарыстоўваць і на парнікі, дзякуючы яго цеплатворнай здольнасьці. Пульхна складзеная куча вазоў 20—25 сьмяцьця, па досьледах Інстытута па ўгнаеньнях давала да 50 градусаў цяплыні, а ў некаторых выпадках і да 60 градусаў, ня гледзячы на тое, што ўкладка кучы ўтваралася ў сьнежні месяцы пры моцных марозах. Сьмецьце, па досьледах Садова-гароднай станцыі пры б. Ціміразеўскай Акадэміі, паказала, што парнікі, набітыя сьмецьцем ня ўступаюць парнікам на конскім гнаі па колькасьці атрыманьня цяпла. У гнаі цяпло трымаецца значна даўжэй. Гэта цеплатворная здольнасьць сьмецьця надзвычай важна ва ўмовах прыгарадных гаспадарак, дзе заўсёды будзе недахоп у конскім гнаі.

Усе злавоньні, з якімі заўсёды зьвязаны няпрыемнасьці ў працы па вывазцы на поле адкідаў хутка зьнішчаюцца пры зьмешваньні нячыстот з торфам.

Што мы трацім штогодна, ня скарыстоўваючы гарадзкіх адкідаў?

Па падліках, зробленых у гэтым напрамку досьледчымі ўстановамі лічыцца, што кожны чалавек за год дае ў сярэднім 570 клгр. сухіх і мокрых адкідаў, ня лічачы вулічных зьмётак. Напрыклад, пры 150.000 насельніцтва гор. Менску штогодна прападае 85.500 тон адкідаў. Пры сярэднім утрыманьні ў сабе спажыўных матэрый 0,6 проц. азоту, 0,5 пр. фосфарнай кіслаты і 0,5 проц. калія. Агульная колькасьць адкідаў дае: азоту—513 тон, фосфарнай кіслаты—427 тон, калія—342 тоны, а ўсяго 1282 тоны лёгка растварымых спажыўных матэрый.

Калі лічыць, што звычайныя ходкія віды штучных угнаеньняў утрымоўваюць у сабе ў сярэднім 20 проц. растварымых спажыўных матэрый, то на 1282 тоны растварымых спажыўных матэрый патрабуецца каля 6.500 тон штучных угнаеньняў.

Па гэтаму прыблізнаму разьліку можна ўявіць сабе, якую колькасьць найкаштоўнейшых спажыўных матэрый, так патрэбных для сельскагаспадарчых расьлін, народная гаспадарка траціць штогодна ў агульна-рэспубліканскім маштабе і губляе зусім дарэмна. Ня трэба забываць, што ўся гэтая страта ідзе за кошт нашых палёў, чым утвараецца дэфі-

цыт спажыўных матэрый у глебах і мы прымушаны кампэнсаваць гэта завозам штучных угнаеньняў на вялікія адлегласьці, што перагружае транспарт і павялічвае выдаткі на вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі.

Скарыстаньне адкідаў у якасьці ўгнаеньня, у якім мы маем войструю патрэбу—зьяўляецца важным пытаньнем у павышэньні ўраджайнасьці нашых прыгарадных гаспадарак. Хутчэйшае вырашэньне гэтага пытаньня прыгараднымі гаспадаркамі дасьць магчымасьць атрымаць новыя мільёны тон гародніны.

А. Сільвестровіч.

## Пчалу—на службу высокаму ўраджаю

Шматлікімі досьледамі ўстаноўлена, што ўраджайнасьць кармавых траў, гародаў, садоў, грэчкі і іншых культур, можа быць значна павялічана без асобных затрат з боку дзяржавы толькі з дапамогаю пчол. Звычайна сярэдняя ўраджайнасьць насеньня аднаго гектара канюшыны роўна $2^1/_2$ цэнт., пры апылкаваньні-ж гэтага гектара пчоламі (з досьледаў Усесаюзнага Інстытуту пчалярства) ураджайнасьць павялічваецца на 200 проц.

Па БССР засяваецца каля 50 тыс. *га* канюшыны. Такім чынам можна атрымаць без асобных затрат (для апылкаваньня 1 *га* патрэбна 2 пчоласямі), каля 250 тыс. цэнтн. лішняга насеньня канюшыны; ураджайнасьць саду, пры поўным апылкаваньні яго пчоламі, павялічыцца ў 9 разоў; ураджайнасьць 1 *га* гуркоў на 40—50 проц., сланечнікаў на 400 проц. і г. д.

Такім чынам шырокае прымяненьне пчолаапылкаваньня можа даць мільёны цэнтнераў лішняй гародніны, садавіны, канюшыны, грэчкі і інш. культур, яно можа павялічыць прыбытковасьць сацыялістычнага земляробства на мільярд рублёў.

Таму пчала павінна быць пераключана на службу сацыялістычнаму земляробству. Задача пчол—павялічваць ураджайнасьць палёў, садоў і гародаў. Разам з гэтым, пчала павінна разьвязаць і такія задачы, як забесьпячэньне нашай прамысловасьці воскам, павялічэньне запасаў цукровых матэрый—мёду, як прадукту экспартнага і, як прадукту харчаваньня рабочага насельніцтва.

Для апылкаваньня сельскагаспадарчых культур і для скарыстаньня дарэмных багацьцяў прыроды, для БССР патрэбна каля 2-х мільёнаў пчоласямей. Па няпоўных зьвестках зараз па БССР маецца 173 тысячы пчоласямей, з якіх у калгасным і саўгасным сэктару каля 35 тысяч пчоласямей. Такім чынам, каб цалкам забясьпечыць нашу рэспубліку пчоламі, неабходна маючую колькасьць пчоласямей павялічыць прыблізна ў 12 разоў.

Атрымаць патрэбную колькасьць пчоласямей ня так ужо цяжка. Калі мы штогодна ад кожнай перазімаваўшай сям'і будзем браць па аднаму адводку, то зможам павялічыць колькасьць пчоласямей на 100 проц. штогодна, што дасьць да канца 1935 г. патрэбную нам колькасьць пчоласямей. Акрамя таго, адборка адводкаў з плоднай маткай перад пачаткам галоўнага ўзятку павялічвае збор мёду асноўнай сям'і.

Пры ўкамлектаванасьці асноўнага пасечнага пункту, адводкі можна садзіць на новых пасечных пунктах, праводзячы гэту работу ў плянавым парадку з пасадкай па 100 раёў адразу ў раней падрыхтаваныя вульлі.

Прыстасоўваючы мэтад інкубатарнага размнажэньня пчол Хэрсонскаму апорнаму пункту Усесаюзнага Пчалярнага Інстытуту ўдалося павялічыць колькасьць пчоласямей за адно лета ў 3 разы. Пры гэтым затраты па штучнаму разьвядзеньню пчол інкубатарным способам выразіліся ў сярэднім па 15 руб. на адну сям'ю пчол (да 50 тысяч штук).

На 1932 г., па лініі калгаснай сыстэмы намечаны наступныя мерапрыемствы па пчалярству:

а) давесьці колькасьць пчоласямей у калгасах да канца году з 30.000 да 110.000 пчоласямей, з якіх у рамачных вульлях павінна быць 88.000;

б) загатовіць да пачатку сэзону 55.000 рамачных вульляў, з якіх 25.000 павінна быць загатоўлена на мясцох калгаснымі брыгадамі сталяроў і 30.000—мясцовай прамысловасьцю;

в) падрыхтаваць праз 6-месячныя курсы 150 пчаляроў—тэхнікаў для буйных таварных пасек (гэтыя курсы адчынены ўжо пры пасецы „Струг", Менскага раёну). Падрыхтаваць праз 2-месячныя курсы брыгадзіраў-загадчыкаў аддзяленьнямі буйных таварных пасек—180 чал. Перападрыхтаваць праз месячныя курсы пчаляроў для астатніх калгасных пасек, якія стаяць на ступені перарасту ў таварныя пасекі—400 чал.

Для выкананьня гэтага плянавага заданьня на 1932 год райкалгассаюзы павінны зараз-жа арганізаваць на мясцох у калгасах выраб рамачных вульляў, даўшы канкрэтнае заданьне кожнаму калгасу з такім разьлікам, каб да пачатку сэзону забясьпечыць патрэбнасьць калгасных пасек у рамачных вульлях.

Павінна быць канчаткова зжыта на мясцох злачынная бязьдзейнасьць у адносінах скарыстаньня крэдытаў на мерапрыемствы па пчалярству.

Аграном-пчаляр **М. Дамарацкі.**

---

**Апылкаваньне расьлін пчоламі значна павялічвае ўраджай нашых садоў і гародаў. Абкружым штодзеннымі клопатамі пчалу**

# СТВОРЫМ ЗБОЖЖАВЫ ФОНД ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ ІМЯ ТАВ. СТАЛІНА

XVII канфэрэнцыя УсеКП(б) па дакладзе т.т. Молатава і Куйбышава вызначыла сусьветна гістарычныя задачы для другой пяцігодкі.

**„Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын параджаючых клясавую розьніцу і эксплёатацыю і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“** (з рэзалюцыі XVII канф. УсеКП(б).

Асноўнай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі—зьяўляецца завяршэньне сацыялістычнай перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі. Будзе завершана сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі. Машына-трактарнымі станцыямі будуць ахоплены ўсе калгасы, якія (МТС) у асноўным завершаць мэханізацыю сельскай гаспадаркі.

Няма ніякіх сумненьняў, што пад выпрабаваным кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з таварышом Сталіным, вызначаныя заданьні другой пяцігодкі будуць ня толькі выкананы, але і перавыкананы.

Калгасьнікі калгасу „Зялёны клін“, Волкаўскага раёну, Харкаўскай вобласьці (УССР) зьвярнуліся з адозвай да ўсіх калгасьнікаў СССР аб стварэньні збожжавага фонду другой пяцігодкі імя т. Сталіна. Гэты заклік горача падхоплен калгасьнікамі калгасаў: імя 1-га мая, „Чырвоны меч“ і „Вольная праца“, Каменаборскага сельсавету, Бярэзінскага раёну. Гэтыя калгасы акрамя таго, што перавыканалі свой плян збожжазагатовак (па збожжу плян выканан на 128 проц., па ільнанасеньні—на 222 пр., па ільнавалакну—на 123 проц.)—здалі яшчэ 54 *цнт* збожжавых культур у фонд другой пяцігодкі імя тав. Сталіна.

Адначасова калгасьнікі калгасу „Чырвоны меч“, „Вольная праца“ і „імя 1-га мая“ зьвярнуліся з адозвай да ўсіх калгасьнікаў і беднякоў і серадзякоў — аднаасобнікаў БССР, якая зьмешчана ў гэтым нумары нашай часопісі, аб стварэньні збожжавага фонду другой пяцігодкі імя т. Сталіна. На гэтую адозву адклікнулася шэраг калгасаў. Напрыклад, калгасьнікі калгасу „Случ“, Слуцкага раёну ўключыліся ў стварэньне ўсесаюзнага збожжавага фонду другой пяцігодкі імя тав. Сталіна, здалі звыш загатоўчага пляну два цэнтнеры збожжа ў фонд другой пяцігодкі. Калгас „Случ“ выклікаў на сацыялістычнае спаборніцтва ўсе калгасы Слуцкага раёну.

У адказ на адозву калгасьнікаў Каменаборскага сельсавету, камунары камуны „Праца“, Ельскага раёну, на агульным сходзе пастанавілі: унесьці 5 *цнт* збожжа звыш пляну ў фонд другой пяцігодкі. Апрача гэтага камунары ўзялі на сябе сацыялістычнае самаабавязацельства раскарчаваць і засеяць звыш пляну 2 *га* яравых культур імя другой пяцігодкі.

Каштоўнейшы пачын калгасьнікаў брацкай Украінскай рэспублікі павінен быць ператворан у здабытак шырокіх калгасных мас БССР. У адказ на заклік калгасьнікаў калгасу „Зялёны клін“, Волкаўскага раёну (УССР), імя 1-га мая, „Чырвоны меч“ і „Вольная праца“, Бярэзінскага раёну (БССР) арганізуем хвалю чырвоных абозаў са збожжам, ільновалакном, мясам і іншай тavailable прадукцыяй сельскай гаспадаркі. Засеем звышплянавыя гектары ў фонд другой пяцігодкі імя т. Сталіна.

Дамо руйнуючы адпор клясаваму ворагу—кулаку, а таксама і яго агентам—правым і „левым“ апартуністам, пры дапамозе якіх кулак імкнецца сарваць пасьпяховае наша сацыялістычнае будаўніцтва.

Створым збожжавы фонд другой пяцігодкі імя тав. Сталіна!

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі наперад да новых перамог на подступах другой пяцігодкі!

## Да ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і серадзякоў-аднаасобнікаў

### (Адкрыты ліст бярэзінскіх калгасьнікаў)

Таварышы! Мы, калгасьнікі калгасу імя 1-га мая, „Чырвоны меч“ і „Вольная праца“, Каменаборскага сельсавету, Бярэзінскага раёну, пад выпрабаваным кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі, заваявалі перамогу ў выкананьні адной з баявых гаспадарча-палітычных задач.

Плян збожжазагатовак у колькасьці 330 *цнт* намі перавыканан. Гадавы плян мы выканалі на 128 проц. Па ільнонасеньні—на 222 проц., па ільновалакне—на 123 проц.

Гэтых перамог мы дабіліся ў рашучай барацьбе з правымі і „левымі“ апартуністамі, у барацьбе з буржуазнымі імкненьнямі затрымаць здачу таварнай прадукцыі дзяржаве.

Азьвярэлы клясавы вораг — кулак, упарта, не здаючы збожжа дзяржаве, праводзіў сваю шкодніцкую работу, але мы далі яму рашучы адпор.

Сацыялістычны сэктар Каменаборскага сельсавету паказаў сапраўды рашучую ролю ў выкананьні сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Прапрацаваўшы даклад тав. Молатава і Куйбышава, рашэньні XVII Усесаюзнай партыйнай канфэрэнцыі аб другой пяцігодцы, а таксама адозву калгасьнікаў калгасу „Зялёны Клін“, Волкаўскага раёну, Харкаўскай вобласьці (УССР) аб стварэньні збожжавага фонду другой пяцігодкі імя т. Сталіна, мы, калгасьнікі калгасу імя 1-га мая, „Чырвоны меч“ і „Вольная праца“ далучаемся да закліку калгасьнікаў брацкай УССР. Мы, апрача перавыкананага гадавога пляну, здаем у збожжавы фонд другой пяцігодкі імя т. Сталіна—54 *цнт* збожжавых культур.

Мы зварачаемся да ўсіх калгасьнікаў беднякоў і серадьнякоў-аднаасобнікаў Бярэзінскага раёну і ўсёй БССР падтрымаць пачын калгасьнікаў брацкай рэспублікі УССР і наш у барацьбе за стварэньне збожжавага фонду другой пяцігодкі імя тав. Сталіна.

Таварышы калгасьнікі, бедьнякі і серадьнякі — аднаасобнікі, ці прапрацавалі вы рашэньні XVII партыйнай Усесаюзнай канфэрэнцыі?

Ці ведаеце вы, што асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю?

Ці ведаеце вы, што асноўнай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі—зьяўляецца завяршэньне перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі?

Па сельскай гаспадарцы ажыцьцяўляецца завяршэньне сацыялістычнай перабудовы. МТС ахапляюць усе калгасы і ў асноўным завяршаюць мэханізацыю сельскай гаспадаркі.

Таварышы калгасьнікі, бедьнякі і серадьнякі—аднаасобнікі створым збожжавы фонд другой пяцігодкі імя т. Сталіна! Адкажам на заклік калгасьнікаў брацкай Савецкай Украіны хваляй чырвоных абозаў са збожжам, ільновалакном, мясам і іншай таварнай прадукцыяй сельскай гаспадаркі.

Заваюем адно з першых месц ва Ўсебеларускім конкурсе на лепшае выкананьне збожжазагатовак.

Яшчэ шчыльнёй згуртуемся вакол камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з т. Сталіным!

По даручэньні калгасьнікаў калгасу імя 1-га мая, „Чырвоны меч“ і „Вольная праца“ падпісалі:

ад калгасу „Вольная праца“: **Я. Падаляка, Міклуш С., Дубовік Ц., Архіпец Р., Касьцель;**

ад калгасу „1-га мая“: **Мурашка Є., Галубец В., Хадовіч Вінцэсь, Лапцёнак А., Таўкач Сьцяпан;**

ад калгасу „Чырвоны меч“: **Самец С., Шмарлоўская Тэкля, Самец М.**

## Адказваюць на выклік

(*Бярэзінскі раён*)

Прапрацаваўшы пастановы XVII канфэрэнцыі УсеКП(б) і XIV зьезду КП(б)Б, і ў адказ на заклік калгасьнікаў „Зялёны клін“ (УССР) і адозву каменаборцаў, калгасы Сялецкага сельсавету, Бярэзінскага раёну здалі звыш пляну ў збожжавы фонд другой пяцігодкі імя тав. Сталіна 36 *цнт* збожжа.

Калгасьнікі, бедьнякі і серадьнякі — аднаасобнікі Багушэвіцкага сельсавету, гэтага ж раёну таксама здалі звыш пляну 18 *цнт* збожжа.

**І. В.**

## Перавыканалі плянавае заданьне

(*Вушацкі раён*)

Калгасы „Іскра Ільліча“ і „Першамайскі гарадок“, Гарбацікага сельсавету зусім нядаўна арганізаваліся.

У час абвяшчэньня месячніка ЦК КП(б)Б па апрацоўцы і здачы (продаж) тэхкультур дзяржаве, гэтыя калгасы своечасова ўключыліся, а таксама заключылі паміж сабой сацспаборніцтва: на хутчэйшую апрацоўку і загатоўкі тэхкультур, па датэрміновым выкананьні сваіх абавязкаў перад дзяржавай па ўсіх відах загатовак.

Пасьля дэталёвага абгаварэньня на сходах калгасьнікаў абавязкі былі прыняты.

Зараз-жа калгасьнікі прыступілі да выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў.

У выніку ўдарнай работы ўсіх калгасьнікаў, калгас „Іскра Ільліча“ плян ня толькі выканаў, але і перавыканаў: па бульбе гэты калгас павінен быў здаць 10 *т*, а здадзена 10,3 *т*, плян па збожжавых культурах выканан на 101 проц., па здачы ільнатрасты перавыканан на 12 *цнт* і ільнасемя на 5 *цнт*.

Калгас „Першамайскі гарадок“ таксама не адстаў. Яшчэ ў пачатку сьнежня м-ца выканан плян па збожжу на 107 проц., па бульбе на 109 проц., ільнасемя—на 100 проц., ільнавалакну—на 100 пр., ільнатрасты—на 100 проц.

Усе калгасы павінны стаць на шлях калгасаў „Іскра Ільліча“ і „Першамайскі гарадок“ і дабіцца 100-процантнага выкананьня плянаў і абавязкаў перад дзяржавай.

**Я-к.**

---

**На барацьбу за першае месца ва Ўсебеларускім конкурсе па выкананьні плянаў збожжазагатовак!**

# Скрыжаваньне дарог

*Апавяданьне* *Р. КУТЫЛОЎСКАГА*
*Мал. Г. ЗМУДЗІНСКАГА*

## I

На прыгорку за вёскай стаяць абгароджаныя будынкі калгасу „Шлях сацыялізму“. За дарогай ад калгасу чарнее тлустая, толькі што завораная зямля. Калгасьнікі спазьніліся з ворывам і васеньняй сяўбой. Трактар, які прыслаў саўгас на дапамогу, сіратліва стаяў адзін на полі. Стаяў доўга: на адным месцы, заведзены. Трактарам ніхто не кіраваў...

Міхась Леўчанка, камсамолец з калгасу „Шляхі сацыялізму“, зьбіраўся ў раён. Хацеў паведаміць... Дагаварыўшыся з конюхам, ён хутка пабег на стайню запрагаць каня. Па двары, размахваючы рукамі, бег калгасьнік Пінчук і крычаў:

— Ня маеш права запрагаць майго каня!

Адабраўшы каня, Пінчук доўга, на чым сьвет стаіць, лаяў Міхася:

— Беспартошнікі нявшчасныя! Прынялі ў калгас, дык думаеш, што можаш рабіць што захочаш. Дудкі! Сьперш набудзь каня, а тады ўжо будзеш запрагаць.

Пінчука прынялі ў калгас нядаўна. Ды пёрся ён у калгас на зламаньне галавы, лагодна абыходзячыся з калгасьнікамі, хацеў захаваць сваю маемасьць: добрую хату, новае на чатыры пары сох гумно, рублёў семсот варта, жняярку, чацьвёра коняй, пяць кароў, штук дваццаць авечак, сьвіней, гусей.

„Толькі на гэты момант захавацца, а там, я выйду з калгасу, Пац, ды яшчэ мо' хто з лепшых гаспадароў—калгас тады і разваліцца,—так разважаў Пінчук, падаючы заяву ў калгас.—Толькі на гэты момант... Хэ-хэ-хэ... А там... там відаць будзе“.

Спрачаліся доўга, не хацелі, але Пац настояў прыняць.

Няма чаго Міхасю ісьці да старшыні калгасу Паца. Пінчук праўду кажа. Дробная маемасьць і рабочая жывёла да гэтага часу яшчэ не абагулены. А батрак ніадзін ня прывёў каня ў калгас. Ды да таго-ж Пінчук ня толькі для сябе кароў ды коняй трымае; Пац вельмі часта ў Пінчука абедае, малачко сьвежае папівае,—сена ў калгасе шмат накошана, кароў карміць ёсьць чым, абы елі,—малачко ды яшчэ там што-небудзь... абы ціха.

---

Сёньня Пац гуляў і піў. Ён сядзеў поруч з Арынаю,—маладою і прыгожаю жонкаю рахункавода калгасу,—сьмяяўся і пацяшаўся:

— Глядзі, Арынка, трымайся за мяне аберуч, заўсёды будзеш добра жыць. Я-ж старшыня калгасу!

У Арыны часта зьбіраюцца калгасьнікі пагутарыць аб сваім жыцьці. Нездарма Пац сябруе з Арынаю. Сваячасовы і дакладны вучот рахункавода—грошы лічыць.

— Дзядзя, дзядзя!—пазвала Паца шасьцігадовая дзеўчынка—дачка Арыны—худзенькая і белая, як папера, адзета ў летнюю сукенку.—Дзядзя! Мама! каля нас нечага зьбіраюцца.

— Хто?—запытаў Пац.

— Дзядзі,—з трывогай сказала дзеўчынка.—А шмат як.

Арына паднялася з месца і накіравалася да дзьвярэй.

— Ня трэба,—спыніў яе Пац.—Сам найду.

Пац падняўся з лаўкі і шырока расстаўляючы ногі, углядаючыся ўперад п'янымі вачамі, накіраваўся да дзьвярэй, рвануў клямку і вышаў на двор.

З абодвых канцоў вуліцы зьбіраліся людзі пагутарыць, паспрачацца, акурат сёньня выходны дзень у калгасьнікаў. З натоўпу вышлі Канцавы і стары Леўчанка—бедныя—прышлі ў калгас у парваных портках; Анціпчык і Дарожка—батракі—нядаўна яшчэ батрачылі ў бярозоўскіх кулакоў і накіраваліся да двара рахункавода. Адчынілі вешніцу і ўзышлі на двор, і тут-жа з-за вугла паказаўся і сам Пац. П'яныя вочы доўга аглядалі прысутных, як-бы шукалі самага злоснага свайго ворага. Погляд яго застанавіўся на Анціпчыку і вочы ўстанавіліся на чырванаватым шраме шчакі Анціпчыка—успаміне на ўсё жыцьцё для Анціпчыка.

Пац доўга глядзеў у твар Анціпчыку, не адводзячы вачэй ад шрама, чырванеў ад злосьці.

— Хто гаспадар у калгасе?—з націскам, ціха запытаў Пац.—Я! Я старшыня калгасу! Хто супроць мяне?—можаце ісьці пад чортаву мацеру! Гультаі вы, працаваць ня хочаце, ня ўмееце...

Гэтай гутаркай зацікавіліся астатнія, пачалі памаленьку падыходзіць да варот двара. Калгасьнікі цікавіліся жыцьцём калгасу, хацелі пагутарыць з старшынёй, пачуць, што ён скажа. А гаварыць было аб чым: як наладзіць гаспадарку, як уладзіць пытаньне з сьвінагадоўчай фэрмай, як арганізаваць найхутчэйшае выкананьне збожжазагатовак... ды мала аб чым—новая справа, гаспадарка вялікая, працы шмат. Але дагаварыцца з Пацам надта цяжка: нікога ня слухае, ды й запужвае часамі. Падышлі ды слухаюць і маўчаць.

Маўчыць і савет калгасу. Ва ўсіх на памяці выказваньне Міхася Леўчанкі. Крытыкнуў хлапец на сходзе ячэйкі работу старшыні, і Пац зараз-жа даў загад: „Знайсьці сацыяльныя карэньні і вычысьціць з калгасу“. Пагаварыў Дарожка на савеце калгасу, што Пац бязьдзейнічае, а ён вызваў яго да сябе і пальцам паківаў: „Надумаўся мяне ў „левым“ загібе абвінаваціць? Памаўчы ляпей. Ня то дык заўтра сядзеш“.

Вось ад гэтага і маўчаць.

А Пац яшчэ з большай злосьцю, сіплым голасам ужо пачынае крычаць:

— Чаго прышлі?—пытае ён у Анціпчыка, і разам спусьціў вочы ўніз і погляд яго застанавіўся на руцэ Леўчанкі.

— А гэта што за паперкі? Га?—злосна запытаў Пац у Леўчанкі.

Але паперак ад Паца ён і ня думаў хаваць. Пашто!

— А гэта, вось, мы несьлі заявы ў канцылярыю,—сьмела адказаў Леўчанка.—На, вазьмі, мо' усёроўна: ці ў канцыялярыю, ці табе—перадасі там.

Пац вырваў са злосьці заявы з рукі Леўчанкі і прыдушана запытаў:

— Мо' зноў за дапамогай? Няма.

— Там пачытаеш, усё напісана,—адказаў спакойна Канцавы.

Яны павярнуліся і пашлі да выхаду, дзе стаялі астатнія калгасьнікі і гутарылі, назіраючы за дзеяньнем Паца.

— Чакайце,—спыніў іх Пац і пачаў чытаць заявы.

„... Прашу мяне сключыць з членаў калгасу па прычыне неправільнасьцяй і безабразіяў таварышча прадсядацяля...“

„... Ня жалаю быць у калгасе. Жалаю гаспадарыць, а тут толькі п'юць, ды расьцягваюць калгаснае дабро“.

Заявы былі напісаны хто як мог. Адны чарніламі, другія алоўкам—і кожная літара стаяла паасобку. Няпісьменна, але правільна.

Пац недачытаў усіх заяў, а пакамшаў іх і кінуў на сярэдзіну двара. Вецер падхапіў скомканыя паперкі і пачаў забаўляцца людзкім няшчасьцем.

— За ветрам... Выключаю!—з прыціскам, ікаючы прагаварыў ён.—Вы-вы-к-ключаю...

II

Міхась зайшоў у райком, а там ужо сядзіць старшая сьвінарка Чарняк. Прышла са скаргай на старшыню праўленьня калгасу. Захварэла ў яе малое дзіця. Два тыдні клянчыла перад Пацам, прасіла даць сьвежага малака. Два тыдні Пац адказваў усё адным і тым-жа тонам:

— Ідзі, гультайка! Ідзі... Дай, ды дай, а дзе я вазьму табе таго „давала“. Каровы з сабой не прывяла. А ёй дай! А гэтага ня хочаш?“—і падносіў ён ёй заўсёды пад самы нос сьціснуты кулак.

Доўга гутарылі з Чарняк у райкоме. Шмат аб чым даведаліся ад яе і Міхася. Прапанавалі Райкалгассаюзу выслаць камісію і зрабіць рэвізію. Узяліся за праверку спраў, а Пац адвярнуўся і, не адказваючы на пытаньні, моцна стукнуў дзьвярмі, і пашоў на вуліцу.

Праверылі ўсё—і справы калгасу, і ўчынкі старшыні калгасу. І высьвятлілася, чаму калгасьнікі падавалі заявы, чаму такая безгаспадарчасьць. Вынікі былі выразныя.

На дварэ, на полі валяліся плугі, бароны, жняяркі і касілкі стаялі на прыгуменьні, прыпёршыся да старой грушы бэры. Зьлева ад двара чуцен быў піск сьвіней,—скардзіліся на дрэнныя адносіны да іх. Шчымела сэрца сьвінаркі Чарняк, што столькі сьвіней, а парадку ніякага. Каровы ходзяць па двары. Прыбытак разьмеркавалі, а для здачы дзяржаве нічога і не засталося, бо лік едакоў па кнігах павялічан рахункаводам амаль у два разы. А збожжа сёлета ўрадзіла добра.

Выявіць сапраўдны стан калгасу, найці сапраўдныя лішкі збожжа дапамаглі самі калгасьнікі.

Камісія пастанавіла зараз-жа выключыць Паца і Пінчука з калгасу, рахункавода зьняць з працы і перадаць справу ў суд, на ўсіх траіх. Рахункаводства даручыць весьці Карачуну Міколе.

Калгасьнікі да гэтай справы аднесьліся з усьмешкай:

— Дзіва!.. От пагроза для іх, хіба толькі суд мо' прысудзіць. Яны хоць і лаялі нас за тое, што мы нічога не далі для калгасу, але мы ўсё-ж такі прывезьлі з сабою ўсё, што толькі ў нас было. А яны сапраўды ў калгас прышлі голымі. Ім ёсьць да чаго прытуліцца—гаспадаркі ў іх ніштаватыя.



... Там пачытаеш, усё напісана...

Скардзіліся калгасьнікі і на рахункавода—няправільна вёў запіс працадзён — у сваякоў аказвалася больш крыжыкаў у ведамасьці к канцу кожнага месяца. Скардзіліся і на саміх сябе, што раней не змаглі выгнаць шкоднікаў з калгасу. А Міхась проста заявіў на сходзе, што Пац кулак і перашкаджае арганізоўваць калектыўную гаспадарку.

Спрачаліся, шукалі выйсьця, бо замацаваць гаспадарку хацелася кожнаму калгасьніку. І рашылі дружна ўзяцца за працу, і стаць у перадавыя рады.

Рашылі стаць!

III

Пад шэрым прамокшым восенскім небам павольна лёталі вароны, усхвалёваныя дажджлівым надвор'ем. Кружыліся над вялікімі стагамі збажжыны, якое ня ўлезла ў гумны.

Людзі заняты працай. Ні душы ў хатах.

Краіне патрэбен хлеб.

Шэрым туманам абцягнута ўсё неба і з-за туманнай заслоны чутны галасы:

— Не заглядайся...

— За машынаю варон не страляюць...

— Не адставай Ігнат...

— Умовіліся...

— Змалаціўшы сваё, бярозаўцам трэба дапамагчы...

— Эй, но, сівы, не адставай.

— Дзы-дзы-дзы-та-та-тах,—працуе малатарня, не даючы адказу ў рабоце.

Падае ў малатарню Міхась, першы ўдарнік і арганізатар брыгады з камсамольцаў на час малацьбы. Заўзята працуе, паддаючы ахвоты другім.

Гудуць малатарні дробна і бесьперапынна. Мерна ходзяць па кругу стомленныя коні. У людзей бадзёры настрой. Дружная песьня ў рытм працы даносіцца з сярэдзіны гумна:

... Мы ўдарнікі—
Любім працаваць,
Каб нашы фабрыкі
Хлеб маглі раджаць...

На двор узьехала фурманка і крута павярнула да гумна. Насустрач ёй калгасьнік вёў каня з цяжкім возам ачышчанага жыта.

На фурманцы ехала дзеўчына і, заўважыўшы воз, хутка саскочыла на зямлю і пашла насустрач ёй.

— Дзе можна ўбачыць таварыша Карачуна, Мікалай завецца?—запыталася Ніна.—Там, у канцылярыі?

— Няма там нікога,—адказаў калгасьнік і, ня спыняючыся, павёз збожжа да сьвірна.

— Дзе яго можна ўбачыць?

— Усе—там.

Калгасьнік паказаў у той бок, адкуль даносілася песьня.

... Працаю напорнай
Зможам дагнаць.
Камсамольская адвага,
Лёзунг—перагнаць!

Ніна паслана Райкомам у сельсавет па праверцы збожжазагатовак і па дарозе рашыла заехаць да свайго знаёмага таварыша, які працуе зараз у калгасе „Шлях сацыялізму“ рахункаводам.

Падышла да гумна, а там засланай пялёнкай вісіць шэры пыл, падобны да туману,—нікога не распазнаць у гумне.

Ніхто не зьвярнуў увагі на Ніну. Цапы малатарні прагна глыталі бліскучыя жоўтыя снапы. Людзі ледзь пасьпявалі ўпраўляцца, а працавала тут шмат людзей.

З вялікай цяжкасьцю,—так, з цяжкасьцю, гэта было сапраўды так,—ёй удалося адарваць запыленага ад работы камсамольца Леўчанку Міхася,—брыгадзіра, трэба было атрымаць дазвол на вызаў Карачуна.

Леўчанка стомлены падышоў да Ніны.

— Вы з раёну?—сур'ёзна спытаў ён, не даючы выказаць ёй свайго намеру.—Дык прасачэце за работай упаўнаважаных па збожжазагатоўках. Лодырнічаюць.

На ўсе пытаньні Ніны, Леўчанка адказваў вяла, падбіраючы самыя кароткія адказы, бо яму не хацелася адрывацца ад работы.

— Вунь ён ідзе,—паказаў Міхась рукою ў той бок, адкуль ледзь заўважна вырысоўвалася нечая фігура. Распазнаць цяжка, але ён добра ведаў усіх, нават па паходцы, ня толькі па твары.

З гумна вышаў Мікола—чорны, запылены, толькі вочы блішчаць. Пачырванеў.

— Добры дзень, Ніна.

— Добры дзень, Мікола.

— ... як жывеш?

— Нішто сабе. Да вас прыехала.

— Добра.

— Ну, як праца? Цяжка?

— Крыху цяжкавата, а тут яшчэ гэты праклятыпыл вочы дастае, але-ж нічога—час ударны, трэба працаваць, бо дзяржаве патрэбен хлеб.

— Значыць збажына сухая, калі пылу ёсьць.

— Сухая! Увесь ураджай убраны за пагодаю Брыгада паляводаў у нас самая лепшая. Ударна працавала па ўборцы.

— А там хто працуе.

— Ударная брыгада № 3. З дарослых.

Да іх пачалі далучацца па аднаму і другія калгасьнікі,—зрабілі маленькі перапынак, каб адсунуць збажыну ад малатарні.

Паміж імі завязалася жывая говорка.

— Ну, як таварышы з жыцьцём?—пытае Ніна.

— А вось бачыце, працуем, наладжваем жыцьцё—адказаў адзін з калгасьнікаў.

— Вы ўжо, здаецца, былі ў нас, калі ня мыляюся—мы тады яшчэ ў вёсцы жылі—гаравалі на заслончыку зямлі,—запытаў Анціпчык.

— Праўда,—адказала Ніна.—Вы, здаецца, тады батраком былі ў Паца.

— Н-но, але,—адказаў ён.—Вось дык жыцьцё было, кавалку хлеба рады быў. Прасіць, пазычаць трэба было, а цяпер свайго запрацаванага маю дастаткова.

— А як з заданьнем для дзяржавы?—цікавіцца Ніна.

— Слаба яшчэ. Коняй ня хапае. На адных і тыхжа конях, і снапы падвозім, і малоцім, і ў сьвіран адвозім,—адказаў Дарожка.

— А ўсё-ж колькі здалі?—запытвае Ніна.

Ён не хацеў гаварыць, яму сорамна было, што яны ня выканалі свайго пляну, але быў упэўнены, што да заўтрага яшчэ нават і перавыканаюць.

— А хто яго ведае, ня ведаем яшчэ,—адказаў стары Леўчанка і паглядзеў у той бок, дзе стаяў Міхась—сын яго. Ён вельмі баяўся за яго язык, хоць упэўнены быў, што дарэмна і лішняга ён нічога ня скажа.

— Як хто яго ведае,—упэўнена зазначае Міхась.—На сёнешні дзень калгас выканаў восемдзесят два процанты заданьня.

— Ну, вось, восемдзесят два процанты,—паўтарыў стары Леўчанка, задаволены, што Міхась хаця не сказаў лічбы ў пудох.

— А бярозаўцы?—запытала Ніна.

— Зусім дрэнна,—адказаў Міхась.

Ніна кінула позірк у бок Міколы і ён зразумеў, што значыць гэтае пытаньне.

Гаварылі, і ўсе гутаркі згрупоўваліся толькі наўкол збожжа,—збожжа ад якога залежыць будучыня калгасу. Сьмяяліся, расказвалі аб былым сваім „грозным начальніку“—усё зьмяшалася ў агульны магутны выбух сьмеху.

Малатарня № 3 загула. Усе пашлі па сваіх мясцох.

На другі дзень пад вечар усе калгасьнікі сабраліся на вялікім прасторным двара калгасу, каля самага гумна, у якім ляжалі кучы ачышчанага збожжа, калгаснага збожжа—і ніхто не глядзеў на яго, але ўсе аб ім думалі.

Людзі былі п'яныя—п'яныя ад работы, п'яныя лепшай, найвялікшай стомленасьцю.

— На сёнешні дзень абмалочана і ачышчана збожжа для дзяржавы на сто пяцьдзесят два проценты заданьня,—голасна апавясьціў Міхась, стоячы на калодзе, што ляжала каля гумна.

— Гэта яшчэ ня ўсё,—хваліліся калгасьнікі.— У нас яшчэ знойдуцца лішкі.

— У гэтым годзе заданьне перавыканалі, у наступным перавыканаем,—гаварыў Анціпчык.

Пэўніць іх у гэтым ня было ніякай патрэбы. Яны не сумняваліся, што:

„...Тракторами вспашем

Будущее наше...“

і, што:

... Тысячы пёрамог яшчэ наперадзе!

м. Клічаў 1931 г.

Тодар Алесін

# ЗЬВЯРНІСЯ, МОЛАДАСЬЦЫ!

(*Урывак*)

Здаецца, гады... перабеглі...  
Чарадаю прабеглі і от—  
на выгане, каля грэблі  
пастарэў аж да чорнага плот.  
А разам з ім і на Рыгора  
старасьць налажыла знакі...  
Павыскакалі ў дзеда ля скроняў  
пасівелыя валаскі.  
Пражытае ўсюды легла  
плямаю проста, выразна.  
Рыгору цяпер ужо нельга  
прайсьціся рухава ды важна.  
А навокал праца. Поле  
хіляе каласамі вяком...  
І каму з нас, часамі да болю  
ня хочацца быць юнаком!..  
Рыгор пакаўзнуўся вачыма  
па зямлі буянай—ня ніцай,  
а на ёй—  
старэнькай айчыне  
налівалася маладая пшаніца.  
Рыгор ужо ведаў, што зерні,  
якія зьвісаюць волавам,  
ураджай сам—дванаццаць... вернуць  
і ў трыццаць... аплацяць ворыва;  
што праца сваім прыходам  
калгас на шмат абагаціць,  
а калгасьнікаў  
у канцы году  
па вытворчых гадзінах расплаціць.  
І знаў ён, што гэтакі ўхіл  
на буднях пляменаў і расаў  
ўзгадуе  
рост вытворчых сіл  
і тысячы новых калгасаў.  
...Усё было міла... прыбрана,  
цьвіла маладзёжная просінь,  
адно Рыгор састарыўся рана—  
яму толькі сорак восем.  
Таму й казаў: от калі расьці,  
толькі законы хоць растрасі,—  
што не закупіш моладасьці,  
а старасьці не прадасі.

* * *

Двед надышоў, стаў на жэрдку,  
авеены сьвежым паветрам  
— Працуйце хлопцы,  
урочышча „Чвэртка“  
заруніцца ў калгасных гэктарах.  
А гэта былі камсамольцы—  
задорныя хлопцы... спрыты...  
Яны ўжо па ўсёй ваколіцы  
зьнімаюць з палеткаў платы.  
І гэты—замурзаны плот  
злымі вякамі, нядбайнымі  
не перапыніць гутаркі ход  
новых загонаў з камбайнамі.

# ПРАВІЛЬНЫ ПРЫПУСК ЖЫВЁЛЫ І СКАРЫСТАНЬНЕ БЫКА-ВЫТВОРНІКА

Зусім зразумела, што як якаснае палепшаньне жывёлы, так і колькасны рост пагалоўя малочнага стада ў значнай меры залежыць ад правільнага падбору і скарыстаньня быка-вытворніка ў час злучной кампаніі. Звычайна пры падборцы быка на племя, зьвяртаюць увагу на яго здароўе, целаскладаньне (экстэр'ер) і г. д. Усё гэта мае сваё значэньне. Але ні ў якім разе нельга забываць таго вялікага значэньня, якое бык-вытворнік адыгрывае ў перадачы па спадчыне адзнак прадукцыйнасьці свайму патомству.

Навукай даказана, што па спадчыне перадаюцца ня толькі такія адзнакі жывёлы, як масьць, форма цела, здароўе, але і здольнасьць жывёлы даваць шмат малака і малака тлустага. У перадачы ўсіх адзнак патомству, удзельнічаюць у роўнай ступені і бацька і матка (бык і карова). Аднак, неабходна памятаць, што, ня гледзячы на роўны ўдзел у перадачы адзнак патомству,—бык мае вялікае значэньне для патомства, чым карова. На працягу ўсяго свайго жыцьця карова можа радзіць 10—12, у асобных выпадках 15 цялят, а бык за адзін толькі год, пры правільнай ручной злучцы, пакрывае 60—100 кароў, а пры штучным абсеменяньні 300—500 кароў.

Выявіць якасьць быка-вытворніка, вызначыць паляпшае, ці пагаршае ён малочнасьць стада, магчыма толькі шляхам параўнаньня ўдояў яго дачок з удоямі іх матак.

Таксама неабходна высьветліць прадукцыйнасьць яго бацькоў, як па лініі маткі, так і па лініі бацькі. І калі будзе вядома, што яго матка, а таксама бабка, як па лініі маткі, а таксама і па лініі бацькі, вылучаліся высокай удойлівасьцю, тады мы будзем мець поўную гарантыю за тое, што бык дасьць патомства цялушак—будучых кароў—з высокай удойлівасьцю. Неабходна таксама зьвяртаць увагу на здароўе быка, бо толькі здаровы бык можа даваць здаровае патомства. У быка павінна быць масыўная галава, шырокая і глыбокая грудзь, цьвёрдыя косьці, шырокая і моцная сьпіна. Скура павінна быць тонкая, з мяккай поўсьцю. У агульным выглядзе бык-вытворнік павінен быць мужным, моцным.

Правільнае скарыстоўваньне быка - вытворніка знаходзіцца ў залежнасьці ад таго, які спосаб прыпуску жывёлы ўжываецца ў гаспадарцы. Узрост, у якім дапушчаецца бык да прыпуску, колькі кароў даецца на аднаго вытворніка, як забясьпечана кармленьне і ўтрыманьне быка—усё гэта зьяўляецца паказчыкам таго— правільна, або неправільна арганізован прыпуск жывёлы ў гаспадарцы.

Асноўнымі і шырока вядомымі спосабамі прыпуску жывёлы зьяўляюцца наступныя: а) спосаб вольнага (стаднага) прыпуску жывёлы, в) штучнае апладненьне жывёлы.

Пры вольным прыпуску вытворнік пакрывае карову некалькі разоў, што зьяўляецца зусім бескарысным для апладненьня і вельмі шкодным для быка, бо гэта прыносіць вялікія страты яго палавой моцы. Вольны прыпуск жывёлы не дае магчымасьці праводзіць ніякай племяннай работы, не дае вясьці адбор і размнажэньне лепшай высокапрадукцыйнай жывёлы, вымушае прадстаўляць гэтую вялізарнейшую справу поўнаму самацёку, пры якім не можа быць і размовы аб правільнай арганізацыі працы.

Спосаб вольнага прыпуску жывёлы не дае магчымасьці ўтвараць плянаваньне ацёлаў кароў на працягу году так, каб яны праходзілі роўнамерна і ў тыя тэрміны, якія неабходны для снабжэньня рабочых прамысловых цэнтраў. Пры гэтым спосабе прыпуску масавае пакрыцьцё кароў адбываецца вясною і ў пачатку лета, у выніках—масавыя ацёлы кароў на наступны год прыходзяцца на зімова-веснавыя месяцы. Гэты спосаб прыпуску жывёлы стварае ўмовы для вельмі частых выпадкаў спарваньня ў раньнім узросьце. Такое становішча вельмі шкодна адбіваецца, як на здароўі самой жывёлы, так і яе патомства і зьяўляецца галоўнаю прычынаю худасочнасьці і дробнасьці жывёлы.

Такім чынам, мы бачым, што вольны прыпуск жывёлы зьяўляецца перажыткам дробнай, аднаасобнай гаспадаркі. Гэты спосаб прыпуску жывёлы перашкаджае хуткаму разьвіцьцю і пасьпяховаму палепшаньню сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Таму ўсе калгасы і ў першую чаргу малочна-таварныя калгасныя фэрмы павінны безадкладна пакінуць ужываньне вольнага прыпуску жывёлы.

Зусім процілеглым вольнаму прыпуску жывёлы зьяўляецца ручны спосаб прыпуску жывёлы. Усе недахопы, пералічаныя пры апісаньні вольнага прыпуску, вусім ня маюць месца пры ўжываньні ручнога прыпуску жывёлы. Сутнасьць ручнога прыпуску жывёлы заключаецца ў тым, што самцы (быкі) ўтрымліваюцца і пасуцца асобна ад самак. У час ахоты (цечкі) самку прыводзяць да быка, які яе і пакрывае. У выпадку неапладненьня каровы ў папярэднюю цечку, апошняе паўтараецца зноў праз кожныя 17—28 дзён. Сярэдняя працяжнасьць цечкі ў каровы 24—40 гадзін.

Узрост, у якім магчыма дапушчаць да першага прыпуску быкоў павінен быць ня ніжэй 1,5—2 гадоў, а для цёлак ня ніжэй 1 г. 4 м.—1 г. 10 м., у залежнасьці ад іх агульнага разьвіцьця, дужнасьці, здароўя. У першыя тры месяцы работы, маладога быка-вытворніка неабходна дапушчаць да прыпуску ня больш як праз дзень, а ў далейшым ужо магчыма скарыстоўваць штодзенна. Адзін дзень у тыдзень вытворніку неабходна даваць адпачынак.

Пасьля садкі неабходна вадзіць быка і карову на працягу 5—10 хвілін павольным шагам, а потым даць поўны спакой, паставіўшы іх на сваё месца.

Яшчэ больш лепшым, удасканаленым спосабам прыпуску жывёлы зьяўляецца—прыпуск праз штучнае апладненьне. Яно заключаецца ў тым, што спэрма (апладняючая вадкасьць быка з жыўчыкамі) штучным шляхам уводзіцца ў матку каровы і апладняе яе.

Буйная сацыялістычная гаспадарка забясьпечвае ўсе неабходныя ўмовы ў справе практычнага ўжываньня і пашырэньня спосабу штучнага апладненьня жывёлы і скарыстаньня яго пераваг у стварэньні высокапрадукцыйнага і высокатаварнага статку. Акрамя ўсіх тых пераваг, якія дае ручны прыпуск

**жывёлы, штучнае апладненьне дае нам магчымасьць:**

1. **Яшчэ больш правільнага, эканомнага скарыстаньня палавой энэргіі быкоў-вытворнікаў наогул. Калі пры вольным прыпуску жывёлы бык можа пакрыць 30—40 кароў, пры ручным прыпуску 80—100 кароў у год, то пры штучным апладненьні магчыма лічыць 400—500 і больш кароў.**

2. Магчымасьць трымаць куды меншую колькасьць быкоў-вытворнікаў для вялікага статку. Штучнае апладненьне, яшчэ больш падвышае вытворчасьць працы і паніжае сабекошт прадукцыі.

3. У шмат разоў больш дае магчымасьць паскорыць справу якаснага палепшаньня жывёлы. Калі, напрыклад, у гаспадарцы, у раёне—высокакаштоўных, племянных, пародзістых вытворнікаў мала, скарыстоўваньнем іх мэтадам штучнага апладненьня, дае магчымасьць прыкладна ў 8—10 разоў больш пакрыць самак у параўнаньні з натуральным ручным прыпускам. Такім чынам, **за адзін толькі год маем у 8—10 разоў большую колькасьць, высокакаштоўнага маладняку.**

4. Калі ў гаспадарцы, раёне небясьпечна з рознымі заразьлівымі хваробамі жывёлы, дык штучнае апладненьне, зьяўляецца незамянімым сродкам барацьбы з іх распаўсюджаньнем.

5. Спосаб штучнага абсемяненьня жывёлы дае неабмяжованыя магчымасьці для навуковых досьледаў у галіне жывёлагадоўлі. Напрыклад, пры дапамозе мэтаду штучнага апладненьня стала магчымым практычна ўтвараць скрыжаваньне (прыпуск) розных відаў жывёлы, больш магчымасьці ў высьвятленьні пытаньняў спадчыннасьці і г. д.

Ад штучнага апладненьня цяляты раджаюцца пасьля нармальнага тэрміну нашэньня ў утробе, зусім здаровымі і ніколькі ня горшыя, чым ад натуральнага прыпуску. Процант запладненьня кароў (як і іншай жывёлы) ня ніжэй нармальнага.

Справа забесьпячэньня правільнага ручнога прыпуску жывёлы і самага шырокага разьвіцьця і ўмацаваньня спосабу штучнага апладненьня, павінна прыцягнуць належную ўвагу з боку самых шырокіх саўгасных і калгасных мас. Без вырашэньня гэтай справы ў самым хуткім часе немагчыма колькаснае павялічэньне і якаснае палепшаньне стада сацыялістычнай жывёлагадоўлі тымі тэмпамі, якія дадзены партыяй і ўрадам.

Вось з якой прычыны аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б пастанавіў: „адзначаючы надзвычай вялікі процант ялавасьці кароў (10—15% і сьвіней (25—30 проц.), што тармазіць пашырэньне стада і прыносіць вялікія страты, пленум абавязвае:

а) Наркамзему, Саўгастрэстам, Калгасцэнтру разгарнуць шырокую работу па зьнішчэньні ялавасьці, у двухдэкадны тэрмін устанавіць цьвёрдую сетку злучных пунктаў па БССР, да 1-IV—32 г. закончыць арганізацыю іх. Правядзеньне злучной кампаніі павінна быць такой-жа важнейшай і ўдарнай кампаніяй, як пасеўная і ўборачная;

б) правясьці на працягу 1932 году мэтызацыю ўсяго пагалоўя сьвіней ў саўгасах, Сьвінаводтрэстах і ня менш 50 проц. сьвінога пагалоўя—у сьвінагадоўчых таварных калгасных фэрмах; па буйнай рагатай жывёле—50 проц. ва ўсіх саўгасах і ня менш 30 проц.—у малочна-таварных фэрмах;

в) улічваючы недастатковасьць высокаякасных вытворнікаў, арганізаваць не пазьней 1-IV—32 году па ўсіх, без выключэньня, раёнах пункты штучнага апладненьня і зараз-жа разгарнуць масавую работу, як па папулярызацыі гэтага мерапрыемства, так і па непасрэдным правядзеньні злучной кампаніі".

Ажыцьцяўленьне гэтай дырэктывы партыі—неадкладная задача ўсіх саўгасаў і калгасаў.

Аграном **В. Круглоў.**

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Харытановічу М.** (Магілеў). Рэдакцыя часопісі „Шляхі калектывізацыі" не выдае кніжок. Вам належыць зьвярнуцца ў Дз.ВБ.

**Сьвітко Юр.** (Узда). Ваш верш „Бальшавіцкі сеў" друкавацца ня будзе. Слабы.

**Аланаў Д** (Магілеў). Ваш допіс „Практычнае ажыцьцяўленьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна" не падыходзіць да нашай часопісі. Няма канкрэтнасьці ў допісе. Пішэце карацей і канкрэтней.

**Модлін Г.** (Магілеў). Вашы допісы „Шырыць дасягнутыя посьпехі" і „Папярэднія вынікі работы па конкурсу" перададзены ў газэту „Калгасьнік Беларусі".

**Зайцаву і Кузьмянку.** (Мазырь). Допіс „Калгасы Слабодзкага сельсавету свае абавязкі выконваюць" ня будзе друкавацца. Допіс вялікі, а канкрэтна нічога не паказана. Пішэце коратка і канкрэтна. Допісы аб калгасе „Новае Запольле" і „Новыя Шылчы"—перададзены ў газэту „Калгасьнік Беларусі".

**Кароль К.** Ваш нарыс „Уперад да новых перамог" у часопісі „Шляхі калектывізацыі" ня можа быць скарыстаны, надта вялікі памерам і слабы па зьместу.

**А. Кавалеўскаму** (Ветрына), **Р. Дамінікову** (Крупкі), **А. Курловічу, П. Усеню** (Старыя Дарогі). Допісы друкавацца ня будуць таму, што вы ўзялі цэлы шэраг тэм, падалі іх агульна, надзвычайна суха.

**Паўловічу У.** (Койданава). У вашым артыкуле ні слова ня сказана пра канкрэтных носьбітаў зла, пра зрыўшчыкаў працы па нарыхтоўках. Артыкул напісан суха. Друкавацца ня будзе.

**Я. Кулакову** (Гадзілавічы), **З. Забаву.** Скарыстайце свае допісы ў насьценгазэце.

**М. С. Тычына** (Любань). Ваш нарыс „Нашы дасягненьні" зусім слабы. Друкавацца ня будзе.

**А. Сьмеламу.** Ваш допіс перадалі ў „Калгасьнік Беларусі".

Таварышы, рабселькоры, разглядаючы вашы матар'ялы адразу кідаецца ў вочы, што вы бярэце цэлы шэраг тэм, на гэтых тэмах будуеце адзін допіс, у выніку чаго з матар'яламі не спраўляецеся, допісы выходзяць сухімі, з агульнымі разважаньнямі. Неабходна падаваць матар'ял коратка, канкрэтна, ня браць многа тэм, а адну-дзьве і будаваць на іх грунтоўны допіс.

**Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 553. 1.600 экз. Галоўлітбел № 320





| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | —24 нумары | | 3 р. |
| „ 6 мес. | —12 | „ | 1 р. 50 |
| „ 3 мес. | 6 | „ | — 75 |
| „ 1 „ | 2 | „ | — 25 |

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ

Адрес рэдакцыі часопісу: